# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

28 ЛІСТАПАДА 2003 г. № 48/4233


## АНОНС!

Набліжаецца 60-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 60-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.
Установа «Літаратура і Мастацтва» праводзіць агульнанацыянальную акцыю па стварэнні кнігі **«Наша Перамога»**.
Запрашаем усіх, хто зацікаўлены, да супрацоўніцтва.



*Таіса БОНДАР: "Нельга — недапушчальна! — скрозь і з любой нагоды азірацца на Захад, нельга — бо гэта будзе мець непрадказальны вынік!.."*



# Мы — беларусы

*Рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і Мастацтва" падрыхтавана і выпушчана ў свет унікальнае выданне "Мы — беларусы". Кніга — своеасаблівы партрэт беларускага грамадства ў межах XX стагоддзя, карані якога заглыблены ў далёкім мінулым.*







# КОЛА ДЗЁН

## УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

За вялікі асабісты ўклад у падрыхтоўку і правядзенне на высокім арганізацыйным узроўні дзесятага, юбілейнага Дня беларускага пісьменства група работнікаў дзяржаўных органаў удастоена ўзнагарод беларускага ўрада. Ганаровымі граматамі Савета Міністраў адзначаны намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, намеснік старшыні Полацкага гарвыканкама Вольга Жданові, намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Пётр Южык і інш.

## ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

Упраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі распаўсюдзіла інфармацыю, згодна з якой дэвальвацыя беларускага рубля ў адносінах да расійскага складзе за апошнія месяцы гэтага года не больш чым 4,3 працэнта, а да долара — не больш чым 2,9 працэнта. Абменны курс нацыянальнай валюты да долара прагназуецца на 1 студзеня 2004 года не больш чым 2170, а да расійскага рубля — не больш чым 71,85 беларускага рубля.

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

18 лістапада ў Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё рэканструяванага магазіна "Белсаюздруку", які, як сцвярджаюць спецыялісты, цяпер можа лічыцца унікальным. Магазін знаходзіцца на вуліцы Максіма Танка. Ва ўрачыстасцях удзельнічаў міністр інфармацыі У. Русакевіч.

## ПРЫНЦЭСА ТЫДНЯ

Сямігадовая беларуска Руслана Пузіноўская заваявала тытул "5-ая прынцэса" на дзіцячым міжнародным фестывалі прыгажосці і талентаў "Міні-міс свету-2003", які праходзіў на Мальце. У конкурсе спаборнічалі прадстаўніцы 15 краін свету. Пераможцамі сталі дзяўчынкі з Кітая і Украіны, а тытулу прынцэсы былі ўдастоены, акрамя нашай суайчынніцы, прадстаўніцы Расіі, Мальты і Бразіліі. Руслана Пузіноўская з'яўляецца пераможцай конкурсу "Міні-міс Славянка-2003" і лаўрэатам фестываля "Міні-міс Беларусь-2003".

## ПРЭТЭНДЭНТЫ ТЫДНЯ

Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі прэтэндуе на пасаду прэзідэнта... Расійскага футбольнага саюза. Акрамя таго, заяўкі на ўдзел у выбарах паступілі ад дзеючага прэзідэнта РФС В. Каласкова, кіраўніка холдынга "Інтэррас" У. Патаніна.

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

У сувязі са следствам па справе аб крадзяжы каштоўных металаў на прадпрыемстве "Унікаштмет" БДУ — структурным падраздзяленні Белдзяржуніверсітэта — Генеральны пракурор Віктар Шэйман звярнуўся да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з просьбай аб часовым адхіленні ад пасады рэктара БДУ Аляксандра Казуліна. Кіраўніком дзяржавы прынята рашэнне аб вызваленні А. Казуліна ад пасады рэктара БДУ. Рэктарам БДУ прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прызначыў Васіля Стражава.

## ТЭНДЭНЦЫІ ТЫДНЯ

Да 2007 года захворваемасць на карыес у нашай краіне зменшыцца на 25 працэнтаў. Пра гэта паведаміў сродкам масавай інфармацыі галоўны стаматолаг Міністэрства аховы здароўя. Робяць такія заявы стаматолагі на аснове тэндэнцый, якія склаліся за апошнія пяць гадоў: захворваемасць на карыес зменшылася з 3,8 да 2,8 працэнта.





# СПАКОЙ НАМ ТОЛЬКІ СНІЦЦА?

Хтосьці скажа: мы жывём у найгоршы з часоў, пад пастаянным гнётам "грашовага таталітарызму", і будзе недалёкі ад ісціны. Бо варта толькі адсачыць навіны хоць бы аднаго пражываемага людствам дня і стане абсалютна відочна, як сур'ёзна змянілася пасля развалу Савецкага Саюза расстаноўка сіл, як амаль паўсюдна духоўнае, узвышанае падмяняецца бездухоўным і пошлым, як лёгка, амаль без супраціўлення культурнае саступае абывацельскаму, маральнае — амаральнаму.

"У выніку антыкамуністычнага перавароту... пачаўся імклівы працэс дэградацыі мільёнаў людзей, як гэта і планавалася арганізатарамі і стратэгамі "халоднай вайны", — адзначае вядомы рускі філосаф Аляксандр Зіноўеў, працягваючы: — І здзіўляцца трэба не таму, што Савецкі Саюз абрушыўся, а таму, што ён так доўга супраціўляўся пераўзыходзячым яго разоў у дзесяць па сумарных сілах ворагу".

інфармацыі, у першую чаргу — электронныя, сярод якіх сваёй маштабнасцю і непадкантрольнасцю вылучаецца Інтэрнет, запаланены дылетантамі ўсіх масцей, а то і шызафрэнікамі, і актыўна ператвараемы ў сферу словаблуддзя, у памыйную яму пустых амбіцый, прэтэнзій і ніякай маралі не абмежаваных жаданняў, — праз электронныя "выпарэнні" немагчыма прабіцца да разумення таго, што адбываецца.

Гэта — адзнака сучаснай цывілізацыі, гэта — дэмакратычна, запярэчыць мне хто з маладзейшых, і я не буду спрачацца. Я проста спытаю: а дзе ў гэтай цывілізацыі — тваё месца? Дзе ў ёй месца твайго народа, тваёй краіны?

Нельга — недапушчальна! — скрозь і з любой нагоды азірацца на Захад, нельга — бо гэта будзе мець непрадказальны вынік! — жыць з адчуваннем уласнай непаўнавартасці, на самай справе не проста надуманым, а свядома "падкінутым".

не толькі я падпісалася б пад сказаным, пад запаведаным усім нам, жывым і яшчэ не народжаным, такімі рознымі і такімі блізкімі ў любві да ісціны і да сваіх народаў творцамі.

Ніхто сёння не мае права адседжвацца ўбаку, ніхто не можа абмінуць пытанні: дзе, якое месца Беларусі ў сучасным свеце, у сучаснай цывілізацыі? Чым мы маем права і абавязаны ганарыцца, не баючыся пакрыўдзіць каго з суседзяў, блізкіх ці далёкіх?

Адказаў можа быць шмат, яны могуць быць рознымі, і ўсё ж наўрад ці хто асапрэчыць тое, што беларусы — горды, паважаны ў свеце народ. Народ, вядомы сваёй мужнасцю. А яшчэ — працалюбствам. Яшчэ дабрынёю, якая не разлічвае ні на чыю ўдзячнасць. Шчырасцю і адкрытасцю, якія на фоне "ўзаконенай" СМІ на заходні манер хлуснi некаму здаюцца праставатасцю. Заўсёднай гатоўнасцю дапамагчы, падставіць плячо слабейшаму духам. Нежаданнем лічыцца з пра-



З гэтым цяжка не пагадзіцца. Пацвярджэнні таго факту, што ў свеце ідзе сусветная вайна новага тыпу, якую вядзе Захад на чале з ЗША за панаванне над людствам, ва ўсіх навідавоку. Варта ўключыць радыёпрыёмнік ці тэлевізар, разгарнуць якую з газет... Пашырэнне сродкаў і форм перадачы інфармацыі, павелічэнне (праз спадарожнікавую сувязь) колькасці ўдзельнікаў інфармацыйнага рынку адбываецца такімі тэмпамі і з такім націскам з боку багатых развітых краін, што самы час гаварыць пра міжнародны інфармацыйны тэрарызм.

Ахопліваючы цэлыя кантыненты, патачаны распустаю і сытым себялюбствам светапогляд адных, матэрыяльна і тэхналагічна забяспечаных, беспакарана атакуе і дэфармуе свядомасць другіх, скажаючы непаўторную самабытнасць цэлых народаў, навязваючы не толькі рэкламу, моду і інтарэсы сваіх кампаній, але і свой лад жыцця, сваю сістэму каштоўнасцей, сваю культуру. І часта нават тыя, хто ўсведамляе ўсю небяспеку падобнага націску, змушаны падпарадкавацца...

Змушаны, бо выбару часам проста няма. Хаос, які пануе ў радыё- і тэлеэфіры, калі ў любую мінуту можна ўбачыць і ўчуць што заўгодна, цісне на душу, падпарадкоўвае свядомасць. Адзінае, што ўсімі сродкамі масавай інфармацыі (часткова, на жаль, і ў нас, у Беларусі) унушаецца скрозь і паўсюдна (і унушаецца з нязменным поспехам!): у жыцця няма ніякага сэнсу і шукаць, а тым больш адстойваць, яго марна — трэба плысці на гэтых брудных хвалях разам з астатнімі туды, куды яны нясуць...

Дык жа нельга, нельга! К у д ы нясуць, к у д ы могуць прынесці гэтыя брудныя хвалі нас — усё людства! — вядома, і факты сучаснага жыцця толькі пацвярджаюць сумныя прароцтвы даўніны. І тады не пачулі пасланых чалавецтву пракакаў, і цяпер, нават пад націскам фактаў, не хочам пачуць тых, хто папярэджвае: калі мы, калі наша свядомасць па-ранейшаму будзем безабароннымі перад ментальным гнётам купкі тэхналагічна ўзброеных таўстасумаў, у хуткім часе — ужо наступным пакаленням — давядзецца сутыкнуцца з экалагічнай катастрофай у сферы духу, а распуста і паступовае выраджэнне стануць масавымі і незваротнымі.

І наўрад ці стане апраўданнем тое, што народы, апынуўшыся ў вадавароце інфармацыйных плыняў, вымушана засталіся безабароннымі перад тымі, у чыіх руках знаходзяцца сродкі масавай

Пакуль мы, скараючыся націску заходняй ідэалагіі, будзем пазіраць на гісторыю сваёй краіны (у складзе Расійскай імперыі ці ў складзе Савецкага Саюза) як на памылку, і такі погляд будзе лічыцца прагрэсіўным, інтэлігентным, нават адзіна прыстойным, ніякага здаровага развіцця грамадства быць не можа. І час ужо зразумець, што і мы даўно з'яўляемся не толькі с в е д к а м і, а л е і а х в я р а м і не сёння распачатай інфармацыйнай вайны і нават не задумваемся, да якой ступені ўздзеянне чужой культуры, чужой ідэалогіі можа паўплываць — і ўплывае! — на нашу псіхалогію, на псіхалогію народа.

Дзень і ноч, на ўсіх эфірных хвалях, са старонак усіх газет прапаведуюцца ідэі і каштоўнасці сучаснай "дэмакратыі" (чытай: сучасных ЗША), дзень і ноч канцылярыі заходніх краін "дбаюць" пра правы чалавека ў свеце, не забываючы ўсё шчытней адгароджвацца ад гэтага свету не толькі пратаколамі і візамі, але і ваеннымі базамі, дзень і ноч шматлікія палітолагі і паліттэхнолагі з ЗША, Еўрасаюза, а апошнім часам і з Расіі "вучаць" нас, як жыць, як думаць, як будаваць нашу дзяржаву і нашу будучыню. І ўсё часцей гэта выклікае ў душы абурэнне, і ўсё часцей можна ўчуць галасы нязгоды і пратэсту.

Прызнаюся, я была ўражана, прачытаўшы надрукаваны ў "Литературной газете" перадсмяротны зварот эстонскага паэта Рудольфа Рыммеля, які пайшоў на самагубства перад рэферэндумам па ўступленні Эстоніі ў Еўрасаюз, каб і словамі, і ўчынкам выказаць сваю нязгоду з тымі працэсамі, якія маюць месца ў сучасным свеце. Тлумачэнне ён прывёў адно: "Калі спатрэбіцца зрабіць выбар, палітыка альбо народ, то трэба выбраць народ; калі спатрэбіцца зрабіць выбар, я альбо народ, трэба выбраць народ; калі спатрэбіцца зрабіць выбар з некалькіх народаў, то трэба выбраць свой народ. Самая глыбокая і цудоўная ісціна гучыць так: чалавек павінен жыць і памерці сярод свайго народа".

Пэўна ж, водсвет трагічнага развітання паэта з жыццём кладзецца на сказанае, высвечваючы словы своеасаблівым святлом, і калі дадаць да іх адно з выказванняў Аляксандра Панарына: "Ніколі не ведаеш, якія тэрміны адпушчаны лёсам табе і тваёй краіне. Часам адседжвацца ўбаку грахоўна. Ты ствараеш вакуум, які запаўняюць сілы зла", то

вам, якое не адпавядае праўдзе і не служыць справядлівасці. Вернасцю запаветам продкаў і лёсу, вызначанаму на пачатку часоў Госпадам. І — нязломнасцю, нязломным духам. У любы з часоў. Падчас любой нягоды.

Пра гэта трэба ведаць. Гэта важна памятаць. Асабліва сёння. Калі, здаецца, ужо немагчыма захаваць сваю чалавечую — д у х о ў н у ю — сутнасць. Калі душа вось-вось надарвецца, шукаючы прыстанку ў няспынным тлуме і вэрхале, прагнучы спакою пасярод пекла, у якое ператворана "жрацамі" сучаснай сусветнай палітыкі Зямля.

Выйсце ўсё роўна давядзецца шукаць. Рана ці позна. Сёння ці праз дзесяцігоддзі. І тое, што пытанні пошуку, стварэння новай ідэалогіі ўзніклі, пастаўлены і шырока абмяркоўваюцца сёння менавіта ў нас, у Беларусі, — яшчэ адно сведчанне таго, што шлях, які Беларусь абрала пасля распаду Савецкага Саюза, правільны. Няхай навт не самы кароткі...

Як пісаў Аляксандр Зіноўеў, якога я ўжо цытавала: "Будучыня ўсяго чалавецтва рашаючым чынам залежыць ад таго, ці здолее яно пераадолець найглыбокі ідэалагічны крызіс, у якім яно апынулася ў выніку краху марксізму як ідэалогіі эпахальнага і глабальнага маштабу. А пераадолець яго можна толькі на шляху выпрацоўкі новай ідэалогіі, якая пераўзыходзіць па інтэлектуальным узроўні марксізм і больш адэкватная сучаснай сацыяльнай рэальнасці..."

З Богам, як кажуць! Работа толькі распачынаецца і яе хопіць на ўсіх.

Што ж да сцвярджэння, што мы жывём у найгоршы з часоў, — хто тое ведае напэўна? Не сённяшнім днём сказана: спакой нам толькі сніцца...

**Таіса БОНДАР**

ПРЭЗЕНТАЦЫІ




***Ёмісты том у цёмна-зялёнай вокладцы памерам у 700 старонак. На вокладцы надпіс: "Славянская паэзія XX—XXI". У залатой "арцы" асноўная назва: "З веку ў век". Крыху ніжэй: "Беларуская паэзія". Так вонкава выглядае анталогія беларускай паэзіі, якая выйшла нядаўна ў Маскве ў выдавецтве "Пранат" і стала падзеяй у культурным жыцці дзвюх краін — Расіі і Беларусі. Выдадзены том пры падтрымцы Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі і Міністэрства культуры РФ у межах святкавання Дня славянскага пісьменства і культуры ў 2003 годзе. А напярэдадні стваральнікамі яго сталі маскоўскі паэт, прадпрымальнік (ён жа старшыня рэдкалегіі серыі "З веку ў век") Сяргей Главюк і нашы землякі, якія жывуць у Маскве, пісьменнікі Алесь Каждадуб і Любоў Турбіна. Яны з'яўляюцца ўкладальнікамі тома. Прадмову напісаў В. Купрыянаў.***

# "З ВЕКУ Ў ВЕК"

19 лістапада ў Доме дружбы адбылася прэзентацыя анталогіі. На ёй прысутнічалі не толькі мінскія аматары паэзіі, самі аўтары зборніка, але і госці з Масквы, стваральнікі тома Сяргей Главюк і Алесь Каждадуб, а таксама пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Блахін і старшыня Камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама Міхаіл Ціцянкоў.

Ва ўступным слове вядучая вечарыны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ паэтэса Раіса Баравікова адзначыла:

— Выданне анталогіі "З веку ў век" можна назваць з'явай нашага часу. Падзеяй культурнага жыцця двух народаў — беларускага і рускага. Тут пад адной вокладкай сабраны вершы 107 паэтаў Беларусі. І мы павінны сказаць "Дзякуй!" тым, хто ствараў гэты том. Дарэчы, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Віктаравіч Блахін у сваім выступленні сказаў наступнае:

— Тое, што выйшла такая кніга — гэта знамянальная падзея ў культурным жыцці дзвюх краін. Беларуская паэзія займае дастойнае месца ў славянскай літаратуры. І гэтая анталогія несумненна зробіцца знакавай у беларускай паэзіі, на яе будуць раўняцца маладыя паэты, якія пачынаюць сёння.

— У нас вельмі цесныя адносіны склаліся паміж школамі Мінска і Масквы. Маскоўскія вучні прыязджаюць да нас, нашы, мінскія, да маскоўскіх. І гэтая паэтычная анталогія на дзвюх мовах, спадзяюся, яшчэ больш надасць дынамікі ў сяброўстве школьнікаў Расіі і Беларусі, асабліва ў асяроддзі тых, хто не ўяўляе сваё жыццё без паэзіі, — адзначыў М. Ціцянкоў.

Сяргей Главюк, аўтар праекта тома, падзяліўся з прысутнымі такімі думкамі:

— Кожны год у Расіі праходзяць Дні славянскага пісьменства. Сёлета свята адбылося ў Варонежы. У час святкавання па маёй прапанове было вырашана выдаць серыю анталогій славянскай паэзіі на дзвюх мовах. Першы том — македонская паэзія, другі — беларуская і трэці — сербская ўжо выйшлі. На чарзе — украінская паэзія. А ўсяго выйдзе 12 тамоў, якія прадстаўяць паэтаў усіх славянскіх народаў. Беларускі том — самы лірычны. Гэта прызнала ўся наша рэдкалегія.



— Мы з Любоўю Турбіной, як укладальнікі, атрымалі сапраўдную асалоду, калі працавалі над гэтай кнігай, — зазначыў А. Каждадуб. — Руская і беларуская паэзія вельмі блізкія. Нездарма беларускіх аўтараў перакладалі многія рускія паэты, напрыклад, Юрый Кузняцоў. Скажу, што мы задумалі выдаць яшчэ і серыю славянскага апавядання.

На вечарыне выступілі беларускія паэты, аўтары тома "З веку ў век" Анатоль Вярцінскі, Алесь Пісьмянкоў, Павел Вераб'ёў, Мікола Мятліцкі, Людка Сільнова, Сяргей Панізнік, Генадзь Пашкоў, Навум Гальпяровіч, а таксама фальклорны ансамбль "Рэй".

**Яўген ХВАЛЕЙ**



*НА ЗДЫМКУ: выступае пасол Расійскай Федэрацыі ў Беларусі А. Блахін; удзельнікі прэзентацыі.*

***Фота К. ДРОБАВА***

ВІНШУЕМ!

## ГОЛАС... АД КОЛАС

Пяцікурсніца Беларускай акадэміі музыкі Таццяна Гаўрылава займаецца спевамі ў класе выдатнага майстра вакалу, прафесара Людмілы Колас. Поспехі — відавочныя, бо сапрана Т. Гаўрылавай ужо неаднойчы гучала ў сур'ёзных канцэртных праграмах і лічыцца адным з перспектыўных галасоў у Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Беларусі. Нядаўна маладая спявачка вярнулася з Львова, дзе брала ўдзел у III Міжнародным конкурсе імя Саламеі Крушальніцкай. Журы гэтага прэстыжнага творчага спаборніцтва ганаравала Таццяну Гаўрылаву другой прэміяй. Беларускія спевакі і раней здабывалі лаўры на гэтым конкурсе — напрыклад, заслужаны артыст краіны, оперны саліст і вядомы сёння педагог Міхаіл Жылюк.

**Н. К.**

ПРЭМ'ЕРЫ

## ПАСПЯШАЙ!

Сёння Беларускі дзяржаўны музычны тэатр паказвае "Каралеву чардаша". Гэтай аперэтай І. Кальмана 18 лістапада ён адкрыў свой чарговы сезон. Прыпазніліся з адкрыццём? Але ж у тэатры толькі-толькі завяршыўся рамонт, і публіка прыйшла ва ўжо значна абноўлены будынак. Абнавілася, як ні дзіўна, і сама "Каралева чардаша", зусім яшчэ свежая прэм'ера, пастаўленая пры канцы мінулага сезона. Спектакль папоўніўся двума нумарамі балетнага дывертысмента і цяпер ідзе ў фармаце класічнай аперэты — у 3-х дзеях, як было задумана і кампазітарам.



*НА ЗДЫМКУ: сцэна з "Каралевы чардаша".*

***Фота М. ЗАМУЛЕВІЧА***

# "Я ЖЫЎ З ІМІ, Я РОС СЯРОД ІХ"

Так у свой час назваў уласны артыкул даследчык гісторыі і культуры XIX ст. Г. Кісялёў, узяўшы словы з твора Паўла Шпілеўскага, які жыў, рос сярод беларусаў у 1823—1861 гадах. За такі кароткі век, няпоўныя 38, ён пакінуў яркі след у беларускай і рускай этнаграфіі, журналістыцы, крытыцы ды і ў літаратуры.

Нарадзіўся ён у Шыпілавічах, што на сённяшняй Любаншчыне, змоладу абраў шлях святара (скончыў у 1843-м духоўную семінарыю ў Мінску, у 1847-м — у Пецярбургу), выкладаў славеснасць у Варшаўскім павятовым духоўным вучылішчы па 1852 год, а пасля пераехаў у Пецярбург, дзе меў працу ў педагагічным інстытуце і пачаў супрацоўнічаць са сталічнымі літаратурна-мастацкімі выданнямі — з "Музыкальным и театральным вестником", "Сыном Отечества", "Иллюстрацией", "Русским миром", "Искусством". Асобныя даследчыкі ягонай творчасці, як вельмі станоўчы, падкрэслівалі той факт, што ў Пецярбургу Шпілеўскі пазнаёміўся з М. Дабралюбавым (амаль на 13 гадоў маладзейшым) і гэта зрабіла на яго вельмі вялікі ўплыў. Магчыма. Але нельга не звярнуць увагу і на іншы аспект: у сталіцу Шпілеўскі прыбыў не проста навічком, а аўтарам многіх нарысаў і артыкулаў ("Беларускія народныя павер'і" (1846—52), "Апісанне пасольства Льва Сапегі ў Маскву ў 1600 годзе" (1850), "Народныя прыказкі, з тлумачэннем паходжання і значэння іх" (1852), "Даследаванне пра ваўкалакаў" (1853). Паўторым, магчыма, як раней і ён, студэнт педагагічнага інстытута М. Дабралюбаў і ўразіў чымсьці яго — скажам, эрудыцыяй, смеласцю поглядаў на рэчаіснасць, але той факт іхняга знаёмства, сапраўды, меў станоўчае значэнне. Пазней, у 1860 годзе, можа, і ў выніку гутарак са Шпілеўскім пра беларускую мову і культуру М. Дабралюбаў зазначыць: "Пытанне пра характарыстыку беларусаў павінна хутка быць растлумачана працамі мясцовых пісьменнікаў. Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы". Гэта было сказана выдатным рускім філосафам, крытыкам і публіцыстам, дэмакратам незадоўга да яго смерці (ён і Шпілеўскі памёрлі прыкладна ў адзін час) і вельмі шмат значыла ў хоры шавіністычных галасоў, якія не прызнавалі беларусаў за народ і ўсяляк перашкаджалі сцвердзіць ім сваю самабытнасць, права на мову і культуру, дзяржаўнасць, бачылі іх толькі сваёй падліткаю, пэўным ручайком без назвы...

У 1850-я гады, апрача вышэйзгаданага, Шпілеўскі, можа, як і ўсе, хто прадчувае раннюю смерць, шмат працуе ("Мазыршчына (з падарожжа па заходнерускім краі)" (1859), "Паездка ў заходнія губерні" (1860). Гэтыя публікацыі, як і ранейшыя ("Падарожжа па Палессі і Беларускім краі)», "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках", дзе спалучаліся навуковасць, мастацкасць і займальнасць, у некаторым сэнсе сталі першымі буйнымі надрукаванымі рэчамі пра Беларусь як такую і былі цёпла сустрэты перадавой рускай грамадскасцю, асобнымі пісьменнікамі, якіх хваляваў лёс прыгнечаных нацменшасцяў. Шпілеўскі падтрымліваў мову і культуру літоўцаў ("Нарысы Жмудзі"), спрабаваў пісаць аповесці ("Цыгане"), п'есы ("Дажынкі"), М. Чарнышэўскі і М. Дабралюбаў бачылі ў іх удалыя моманты паказу народных звычаяў, хоць не зусім ухвалялі пэўны сентыменталізм. Былі і іншыя закіды ад кансерватараў і дэмакратаў — з-за супярэчлівасці некаторых момантаў светапогляду (асабліва за "Заходнерускія нарысы"). Сёння, безумоўна, можна ясней уявіць падаплёку той крытыкі: аўтар мог меціць сваю дакладную канцэпцыю, пазіцыю, але хіба мог у тых умовах цалкам, як кажуць, агучыць яе? Хіба ўсе, у рэдакцыях, цэнзура драмалі і дазвалялі публікаваць усё? Але і тое, што ў свае маладыя гады зрабіў, надрукаваў Павел Шпілеўскі, было моцнай, прыгожай цаглінаю ў новы Беларускі Дом — частткай да іншых частак.

Генрых ДАЛІДОВІЧ

НАША ПЕРАМОГА

# МІНУЛАЕ, ЯКОЕ НАС ЯДНАЕ...

Напэўна, у кожнай сям'і ёсць свой невялікі куфэрачак або скрынка, у якіх беражліва захоўваюцца дарагія ўсім сямейнікам рэчы, што належалі або належаць нашым бабулям, дзядулям, ці прабабулькам і прадзедам, а можа, нават і прапрадзедам. Такія рэчы звычайна перадаюцца з пакалення ў пакаленне, — па спадчыне.

Вось і ў нашай сям'і ёсць невялічкі карычневы куфэрачак, у якім захоўваецца гісторыя нашага роду, а больш дакладна, гісторыя двух галін майго роду — па бацькавай і па мамінай лініях.

І з гэтым куфэрачкам "сябрую" з таго часу, калі пачала сябе памятаць: з тых гадоў, калі яшчэ не ўмела чытаць і пісаць. Тады я любіла разглядаць старыя пажоўклыя ад часу фотаздымкі, бліскучыя рознакаляровыя медалі, як мне здавалася, забаўкі, з імі мне чамусьці не дазвалялі гуляць, а толькі — трымаць у руках. "Баявыя ўзнагароды тваіх дзядуляў", — тлумачыла мне бабуля Тамара, і дадавала: "Вырасцеш, зразумееш, што яны значаць для нашай сям'і, асабліва — вось гэта — "За баевые заслуги"".

З фотаздымкаў глядзелі мае продкі з добрымі тварамі. Я думала, усміхаліся толькі мне дзядулі-франтавікі, якіх ніколі не бачыла, але якія, ведала, былі ў мяне задоўга да майго нараджэння. Бабуля Тамара таксама казала, што яны змагаліся на вайне з ворагамі дзеля таго, каб на зямлі шчасліва жылі людзі. Каб нарадзіліся і выраслі мае мама і тата. А потым — каб з'явілася на свет і я, і каб, калі вырасту і стану дарослай, таксама нарадзіла дзетак, а тыя, як вырастуць — сваіх, і каб так заўсёды было з намі, з нашым родам.

Праз гэтыя фотаздымкі і "забаўкі", якія хутка ўвайшлі ў маю свядомасць як баявыя ўзнагароды дзядуль, праз расказы бабулі, матулі, бацькі я паступова даведалася пра многае з гісторыі нашага роду. І добрага, і жудаснага. Пра добрае скажу так: род наш быў і ёсць працавіты, спагадлівы да людзей. А вось пра жудаснае, дык тое, што ў гады вайны, калі мае дзядулі ваявалі на фронце, маю прабабку, маці аднаго з іх, дзеда Пятра, фашысты жывой спалілі ў роднай хаце разам з некаторымі яе аднавяскоўцамі.

Вядома, расказвала бабуля Тамара, маміна мама, і пра сябе, пра тое, як нехалі была маладая, пра сваіх бацькоў...

Я, напрыклад, запомніла, як яна пакахала пасля вайны маладога афіцэра-франтавіка, а ён — яе. Маладыя пажаніліся. Ведаю, калі нарадзілася мама.

Шмат гадоў мінула з маіх першых знаёмстваў з дарагімі нашымі сямейнымі рэліквіямі — зараз я вучуся ўжо ў 11 класе і лічу сябе дарослай. Можа, таму, што дарослая, і многае пра род наш ведаю. Але даўно не заглядвала ў карычневы куфэрачак... Вось учора, чытаючы адну газету, заўважыла аб'яву: "Куплю ўзнагароды". Здаецца, у ёй не было нічога асаблівага: побач яшчэ некалькі такіх жа аб'яў, ды мне чамусьці зрабілася прыкра і крыўдна. Адразу ж успомніўся карычневы куфэрачак, нашы сямейныя рэліквіі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне, і тая бліскучая срэбная "забаўка", з якой асабліва не давалі гуляць у маленстве і якая пазней стала зразумелай мне як самая дарагая сярод усіх ордэнаў і медалёў маіх дзядуль — медаль "За боевые заслуги" № 756451.

Чаму самая дарагая? Ды таму, што ніхто не ведае, чыя гэта ўзнагарода: дзядулі Афанасія ці дзядулі Пятра — узнагароднага пасведчання не захавалася, і гэты медаль сярод астатніх ордэнаў і медалёў, якія былі і ў аднаго дзядулі і ў другога — адзін.

Як я разумею, бабуля, ці мае бацькі, вядома ж, па нумары маглі б вызначыць канкрэтна, якога дзядулі медаль: варта ім толькі звярнуцца ў архіў з запытаннем. Але, мабыць, яны гэтага знарок не захацелі зрабіць — хай належыць абодвум франтавікам з нашага роду... І я не буду ўдакладняць: няхай гэтая асабліва дарагая рэч нашай сям'і аб'ядноўвае ў адно франтавыя гісторыі маіх невядомых мне дарагіх дзядуляў Афанасія і Пятра. І няхай медаль той назаўжды застанецца сімвалам баявога яднання двух родаў: роду матулі і роду бацькі...

А яшчэ з горыччу падумала: чаму з'яўляюцца такія аб'явы і чаму існуюць людзі, якія на іх "адгукаюцца"? Такім чынам бацькі некаторых з нас, пазбаўляюць сваіх дзяцей, унукаў, праўнукаў, як пішуць у кнігах, "гістарычнай памяці свайго рода, народа, Айчыны?.." І яшчэ — чаму людзі, якія працуюць у газетах, друкуюць такія аб'явы?

Вольга ЛЕШЧАНКА,
вучаніца 11 класа тэхналагічнай гімназіі нумар 13 г. Мінска.

ВЕЧАРЫНЫ

***Пасяджэнне суполкі "Літаратурны квартал" 19 лістапада праходзіла ў фае Дома літаратара. Яно было прысвечана выданню кнігі, якая не толькі атрымала назву літаратурнага аб'яднання, але і ўвабрала ў сябе тое лепшае, што створана ўдзельнікамі на працягу года існавання.***



# «ЗАПОМНІМ СЯБЕ МАЛАДЫМІ...»

Акрамя сяброў суполкі, на пасяджэнні "Літквартала" прысутнічалі кіраўнікі фірмы "BELPI — Беларускае піва" (каардынатар Леанід Дайнека), дзякуючы якой і выйшла ў свет кніга паэзіі, а таксама запрошаныя журналісты.



Прэзентацыя "Літаратурнага квартала", пад кіраўніцтвам Людмілы Рублеўскай, атрымалася тэатралізаванай. Галоўнымі дзеючымі асобамі святочнай дзеі былі паэты, вершы якіх змешчаны ў кнізе. Леанідам Дайнекам, кіраўніцтвам "BELPI" пасля абмеркавання твораў названа лепшая публікацыя кнігі. Лаўрэатам прэміі "BELPI" стала васемнаццацігадовая паэтэса Дар'я Лосева. Сам жа Леанід Дайнека быў прыняты літкварталаўцамі ў ганаровыя сябры суполкі і яму было ўручана адпаведнае пасведчанне, якое зрабіў мастак Алег Карповіч.



*НА ЗДЫМКАХ: літкварталаўцы перад прэзентацыяй кнігі; Л. Дайнеку ўручаецца пасведчанне ганаровага сябра суполкі; выступае Д. Лосева.*

*Фота К. ДРОБАВА*

## З ЧАСУ — У ЧАС

**Маю завядзёнку перачытваць на ноч класічныя тэксты нашай і сусветнай літаратуры — крытыку, філасофію, мемуарную эсэістыку...**

**Гэта збольшага суцяшае і супакойвае пасля нервовай затхлані нашых сучасных будняў...**

**Колькі ружовых проз і мройлівай эйфарыі зямнога людства бясследна паглынуў паднебны эфір!**

**Аднак неўтаймоўны Ікар прыладжвае ўсё новыя і ўсё больш дасканалыя, на яго думку, крылы для яшчэ вышэйшых палётаў чалавечага духу... Ды зямля не адпускае — прыцягвае, вяртае назад...**

**Так, чытаючы класіку, паступова пачынаеш разумець марнасць інтэлектуальных чалавечых намаганняў у спасціжэнні канчатковага сэнсу нашага зямнога жыцця. Немагчыма выйсці за межы нараджэння і смерці, бо там — НІШТО. Так і ў вялікім мастацтве і ў сапраўднай літаратуры — нішто за межамі творчасці...**

**Заманулася завесці рубрыку "З часу — у час", каб тады-сяды напамінаць мітуслівым "адкрывальнікам новага" прапісныя ісціны "пра першаснае і другаснае".**

***ЛеГал***



Міхась СТРАЛЬЦОЎ:

*"Ці не здаецца вам, дарагі чытач, што мы апошнім часам неяк дзіўна паспакайнелі, калі не сказаць больш, у адносінах да нашай сучаснай паэзіі? Здаецца, і пачытваем яе, а калі нават і не пачытваем, дык усё роўна ўжо наперад ведаем, што той ці іншы паэт, калі яму захочацца, можа нам сказаць. Мы ўсё ўжо спасцiглі і ўсё прайшлі. Дружна дакараем "першакніжнікаў" за тое, што вось на рытмы ды рыфмы куды ўжо мастакі, а вялікіх адкрыццяў разам з тым не маюць, як не маюць іх і тыя, хто яшчэ нядаўна рой вадзіў на паэтычным Парнасе, а цяпер адно спакойна жыве былою славай і былым набыткам. Сумна, сумна і нічога новага. Вось і рэцэнзію на новы зборнік сустрэнеш не так часта, ды і з рэцэнзіі той, бывае, не заўсёды зразумееш, чым гэтая кніжка горш ці лепш за якую іншую. А можа, проста пра дрэнныя не пішуць, а можа, іх, дрэнных, і зусім няма.*

*Так, здараецца, думаем мы, а потым адночы ўсё ж спахопліваемся і пытаемся ў сябе: ну, няхай так, ну, няхай і кніжкі ў нас толькі добрыя, але няўжо ж усе тыя добрыя нават і добрыя ўсе па-аднолькаваму? А можа, усё ж справа ў тым, што выкладаецца ў каторай рэцэнзіі з аднолькавым пафасам пра боб і пра гарох, і нам, чытачам, пры ўсім даверы да сваіх разумовых здольнасцей ніяк не ўцяміць бывае, чым, напрыклад, паэт Н. учарашні адрозніваецца ад сябе самога сённяшняга, і ці адрозніваецца ён ад каго наогул, калі на тое пайшло? Ды напішыце вы нарэшце пра Ю.Свірку не так, як на К.Цвірку, а пра С.Законнікава не так, як пра Ул.Правасуда!*

*А памятаем жа мы і трохі іншыя часы: і бурныя паэтычныя дыскусіі на сходах і на старонках газет, і зацікаўленае чаканне новых зборнікаў Р.Барадуліна, А.Вярцінскага, Г.Бураўкіна, Я.Сіпакова, А.Наўроцкага, памятаем і першае крытычнае хрышчэнне А.Сербантовіча, М.Маляўкі ці С.Блатуна, памятаем і пазнейшае па часе першае водгулле ад імёнаў А.Разанава і Я.Янішчыц — ды ці толькі гэта мы можам прыгадаць! Дальбог, умелі людзі ўваходзіць у літаратуру і ўмелі іх сустракаць ды прывячаць. Здаралася, і аўтары і крытыкі перабіралі меру, але на тое і ёсць ён, жывы літаратурны працэс, дзе ўсё-ткі лепей абысціся без абыякавасці, чым без здаровага, тым больш маладога, азарту. Наіўнае, залішне задзірыстае, як і занудліва-памяркоўнае ці па-старэчы буркліваe, адсеялася ад галоўнага, канструктыўна-дзейснага і жывога, таго, што жывіла тагачасную творчасць і Барадуліна, і Бураўкіна, і Вярцінскага, і Сіпакова, і шмат іншых. Як даўно і як нядаўна гэта было! Сёння "барадулінскае" пакаленне паэтаў пачынаюць пакрысе ўжо называць "сярэднім". І менш пісаць пра яго сталі, менш аналізаваць яговыя здабыткі і пралікі. Можа, не так гэта і добра — быць у "сярэднім" становішчы?*

*Сярэдні ўзрост — гэта, несумненна, сталы ўзрост, на яговых плечы непазбежна кладзецца галоўная ношка жыцця, і калі ты, скажам, паэт, дык мусіш у гэтым жа сэнсе ўспрыняць і прыняць і цяперашнюю сваю, не сказаць новую, але, прынамсі, адказную літаратурную ролю. Развітанне з маладосцю не заўсёды бывае простым, бывае, яно і доўжыцца, і так званыя хваробы росту ўласцівыя не адной маладосці: у сталасці свае цяжкасці, свае клопаты, няхай хаця б клопаты ўсталявання сталасці. Сярэдзіна — гэта прывілея карэнніка, гэта магчымасць не вытыркацца на край ці на фланг, быць прыхаваным у агульнай масе. Кожны выбірае сваё, і часам нават не па сваёй волі. Часам паэт перажывае творчы крызіс. Часам крызіс распаўсюджваецца аж на цэлую генерацыю — крызіс, выкліканы разгубленасцю яе перад новымі запатрабаваннямі часу.*

*Можа, нешта падобнае да такога крызісу перажываюць сёння паэты сярэдняга пакалення. Можа, ад наяўнасці гэтага крызіснага стану і сённяшняя разгубленасць нашай крытыкі, пасвойму зразумелая, але наўрад ці даравальная, бо стан крытычнай думкі не павінен цалкам залежаць ад узроўню непасрэдна-мастацкага даследавання жыцця. Мастак не заўсёды ў стане правільна зразумець прычыны сваіх цяжкасцей, крытык павінен убачыць, зразумець, растлумачыць. Не абавязкова на ўзроўні таго ці іншага мастака, але абавязкова на ўзроўні літаратурнага працэсу.*

*Паэтычная справа заўсёды была па-д'ябальску складанай і цяжкай, сёння яна складаная, як ніколі, бо непараўнальна складанымі і бурнымі сталі само жыццё і час. Мы рыфмуем розныя транспартабельнасці і камунікабельнасці, стрэсы і прагрэсы, мы ледзь не падаем пад цяжарам інфармацыі, разам з тым з вялікімі пакутамі здабываючы крупінкі сапраўдных ведаў, намёк на ісціну, бо наўрад ці трэба тлумачыць, што інфармацыя сама па сабе яшчэ ні ў якім выпадку не ісціна. Мы спазналі і слодыч і горыч, што заключаны ў вядомым сёння нават першакласніку слове НТР. Залішне мажорныя, адно пачуццёвыя адносіны да навукова-тэхнічнага прагрэсу пачынаюць саступаць месца гаспадарчай заклапочанасці і цвярозай развазе. Гэта — сёння. А яшчэ нядаўна... памятаеце час, калі перад асляпляльным бляскам навуковага рэнамэ сарамліва рэтыраваўся бедны гуманітар ("Что-то физики в почете, что-то лирики в загоне"), памятаеце прароцтва пра тое, што кіно і тэлевізар адмяняюць друкаванае слова і калі што і пакідаецца літаратуры, як умова, каб захавацца і выжыць хоць пэўны час, дык гэта тэлеграфны стыль... А потым — трывожныя галасы эколагаў (і адкуль, і калі яна паявілася гэтая навука — экалогія?), нечакана востра пастаўленая праблема навукі і маралі, праблема бездухоўнасці і рацыяналізму, якая, дарэчы, так адначасова, нязграбна заявіла пакуль што аб сабе ў літаратуры пад маскай "дзелавога чалавека". "Голасная" і "касмічная" паэзія, прынамсі, ва ўяўленні крытыкаў, выцясніласа паэзія "ціхай", "інтэлектуальная" — "нутраной", і вось сёння — якая яна, сённяшняя паэзія, хто першы разгадае знак яе на небясі?"*

**("...І абяцанне новых адкрыццяў", 1975г.)**

## ЗАХАРАВА, 19





## ІМПРЭЗЫ



**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**

***(пр. Ф. Скарыны, 44-а, тэл. 289-34-62, 289-34-63)***

**XII ФЕСТЫВАЛЬ "АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЫ"**

**450-годдзю Рэфармацыі ў Беларусі прысвячаецца**

**4 — Канцэрт арганнай музыкі. Уладзімір Неўдах.** Творы кампазітараў XVI—XX стст. Фробергера, Жаляхоўскага, Рагачэўскага, Ё. С. Баха, Свелінка, Савы, Брамса, Рэгера ды інш.

**6 — Ансамбль салістаў "Класік-Авангард", мастацкі кіраўнік Уладзімір Байдаў. Дзяржаўны камерны хор РБ, мастацкі кіраўнік** Наталля Міхайлава. Салісты Раіса Шытава (мецца-



сапрана), Віктар Скорабагатаў (барытон), Янаш Нялепа (тэнар). Творы Лютэра, Хамершміта, Яна з Любліна, Длугарая, ананімных аўтараў XVII ст. ("Полацкі сшытак") ды інш.

**9 — Ансамбль салістаў "Класік-Авангард". Дзяржаўны камерны хор РБ.** Салісты Алена Бундзелева (сапрана), Віктар Скорабагатаў(барытон), Валерый Жывалеўскі (гітара). Музыка Шарпанцье, Вейваноўскага, Клябана, Вацлава з Шамотул, ананімных аўтараў XVII ст. ("Віленскі сшытак") ды інш.

**11 — "Класік-Авангард". Дзяржаўны камерны хор.** Салісты Алена Сало (мецца-сапрана), Алег Кавалеўскі (барытон). У праграме А. Г. Радзівіл, Базылік, Вейваноўскі, Амербах, творы ананімных аўтараў XVII ст. (сшытак "Жальбы") ды інш.

*НА ЗДЫМКУ: ансамбль салістаў "Класік-Авангард".*

***Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА***

***Увага прыхільнікаў Тэрпсіхоры скіраваная гэтымі днямі на падзеі ў Віцебску. З 26 па 30 лістапада тут праходзіць традыцыйны, ужо XVI Міжнародны***

# А Ў ЦЭНТРЫ — КОНКУРС

***фестываль сучаснай харэаграфіі (IFMC). Яго заснавальнікі – Міністэрства культуры РБ, Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі, БРСМ, Культурна-дзелавы Цэнтр ААТ "КІМ", Кампанія "АРТ МАРК".***

Як паведамілі "ЛіМу" з дырэкцыі фестывалю (дырэктар Марына Раманоўская), у праграме фэсту — майстаркласы і прэс-канферэнцыі, фотавыстаўкі ды відэалекцыі, пасяджэнні даследчай лабараторыі секцыі крытыкі. І, вядома ж, канцэртныя выступленні. Сярод іх удзельнікаў — "Moves Per Minute" Dance Company са Швецыі, Беларускі дзяржаўны музычны тэатр з аднаактовым балетам "In Pivo Veritas" (паказаны ў Мінску толькі аднойчы), екацярынбургская харэаграфічная кампанія "Эксцэнтрык-балет" С. Смірнова, Чэлябінскі тэатр сучаснага танца, пермскі Дзяржаўны тэатр "Балет Яўгена Панфілава"...

Аднак у цэнтры ўвагі — Міжнародны конкурс, за лаўры якога спаборнічаюць балетныя калектывы ды пластычныя тэатры з Балгарыі, Беларусі, Германіі, Кітая, Летувы, Польшчы, Расіі, Украіны, Фінляндыі, Францыі, Чэхіі, Эстоніі. Фінал конкурсу — 29 лістапада. І ўжо ў нядзелю, 30-га, пройдзе цырымонія ўзнагароджвання лепшых яго ўдзельнікаў, будзе ўручана прэмія імя выдатнага харэографа Я. Панфілава, і новыя лаўрэаты выступяць у заключным гала-канцэрце поруч з гасцямі фестывалю.

С.Б.

## ВЫСТАВЫ

# ПЕРШАЯ ПЕСНЯ ПРА БЕЛАРУСЬ

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася выстава "Мікола Гусоўскі. Голас XVI стагоддзя", прысвечаная 480-годдзю выдання ў Кракаве паэмы М. Гусоўскага "Песня пра зубра". Твор вядомага паэта-лацініста называюць першай песняй пра Беларусь.

Экспазіцыя распавядае аб гісторыі стварэння і выдання паэмы, прадстаўляе пераклады Я.Парэцкага, Я.Семяжона, Н.Арсеньевай, У.Шатона. Тут жа экспануюцца літаратуразнаўчыя і крытычныя працы беларускіх і замежных даследчыкаў, работы вядомых мастакоў А.Кашкурэвіча, Я.Куліка, П.Драчова.

А. ПАТАПЕНКА

# “БЕЛАРУСКАЕ СЛОЎНІЦТВА”

Філалагічная і метадычная навука ўзбагацілася яшчэ адным каштоўным даследаваннем па лексікаграфіі — “Беларускае слоўніцтва”, аўтарам якога з'яўляецца прафесар кафедры беларусазнаўства Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Б. Плотнікаў.

У беларускай лексікаграфічнай скарбонцы назапашана больш як 2000 розных слоўнікаў (перакладных, тлумачальных, тэрміналагічных, арфаграфічных, дыялектных, энцыклапедычных і інш.), якія на сённяшні дзень яшчэ не падлеглі поўнаму навуковаму аналізу і апісанню. Навуковыя працы В. Шчэрбіна і М. Гуліцкага ахінаюць толькі тэорыю лексікаграфіі і невялікую



Б.А. Плотнікаў

Беларускае слоўніцтва



частку беларускага слоўніцтва XIX – пач. XX ст.ст. Выдадзеная кніга з'яўляецца першай больш-менш поўнай характарыстыкай наяўнага беларускага слоўніцтва, усёй наяўнай лексікаграфічнай спадчыны і будзе карыснай не толькі для студэнтаў філалагічных факультэтаў, але для ўсіх, хто вывучае, выкладае беларускую мову і цікавіцца ёй.

Падрыхтаваны вучэбны дапаможнік складаецца з дзевяці раздзелаў. У кожным раздзеле кнігі ўвесь назапашаны беларускі лексікаграфічны матэрыял (тысячы розных слоўнікаў і слоўнікавых матэрыялаў) раскласіфікаваны на адпаведныя тыпы і даволі падрабязна вытлумачаны і апісаны. З дапамогай выдадзенай працы любы карыстальнік слоўнікаў можа свабодна арыентавацца ў вялізнай колькасці лексікаграфічных выданняў на беларускай мове, апублікаваных як у нашай краіне, так і за яе межамі. Важнейшыя з гэтых выданняў аналізуюцца ў кнізе з дапамогай квантытатыўнага, апісальнага і супастаўляльнага метадаў. Напрыклад, колькасны, або квантытатыўны аналіз зроблены ў дачыненні да вялікага беларуска-рускага слоўніка Я. Станкевіча, што надрукаваны ў Нью-Йорку без зыходных дадзеных пра лексічны склад гэтага лексікаграфічнага выдання. У працы звернута ўвага на разнастайныя лінгвістычныя паметы (стылістычныя, граматычныя, семантычныя і інш.), якімі суправаджаюцца рэестравыя (загаловачныя) словы адпаведных выданняў. Істотным уяўляецца і тое, што ў дапаможніку адзначаюцца як станоўчыя якасці разгледжаных слоўнікаў, так і іх недахопы, што неабходна ўлічыць або пры перавыданні слоўнікаў, або пры стварэнні новых лексікаграфічных прац. У адносінах да здабыткаў сусветнай лексікаграфіі аўтар слушна заўважае пра неабходнасць напісання, напрыклад, беларускага ідэаграфічнага слоўніка. Падобны слоўнік створаны на матэрыяле англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай, рускай і іншых моў, таму, каб падняць беларускае слоўніцтва на сусветны ўзровень, трэба распрацоўваць і тыя тыпы слоўнікаў, якіх нестае ў айчынным мовазнаўстве.

Кніга Б. Плотнікава мае бясспрэчную цікавасць для шырокага чытацкага кола з прычыны шырыні ахопу матэрыялу і глыбіні яго апісання. На вялікі жаль, гэта праца выдадзена тыражом толькі 100 экземпляраў, адсутнічае ў продажы і таму з'яўляецца рарытэтнай для большасці спецыялістаў і навучэнцаў.

**Валянціна ТРАЙКОЎСКАЯ**



# ДРЭВА, ПАДОБНАЕ НА БЕЛАРУСЬ

Хто як, але я з нейкім жалем, змяшаным з “подзівам звыклым” (Л. Стаф), адношуся да тых, хто аддае перавагу ў сваім чытанні гістарычнай прозе. Верагодна, гэтак здарылася таму, што не хто іншы, як талстоўскі Мікалай Растоў, якога я разам з Ніколенькам Балконскім адразу неяк не ўпадабала, быў аматарам падобнага чытання: “Чтение его составляли книги преимущественно исторические, выписывавшиеся им ежегодно на известную сумму”. Зразумела, што сярод гэтых гістарычных кніг уласна мастацкая літаратура складала толькі нейкую частку, мабыць што і нязначную; і тым не менш… Гэта менавіта ён, Мікалай Растоў, быў гатовы “зарубить” П'ера Бязухава, мужа сваёй роднай сястры, бацьку чацвярых дзяцей, пакінуць іх сіротамі ў тым выпадку, калі б П'ер паспрабаваў ажыццявіць сваю ўлюбёную думку пра тое, што “ежели люди порочные связаны между собой и составляют силу, то людям честным, порядочным надо сделать только то же самое”. Але як зрабіць гэта, напрыклад, таму ж чытачу, калі сам П'ер Бязухаў — тыповы прыклад таго, як “герой аваладвае аўтарам”? (Думка М. Бахціна.) У дачыненні да беларускай гісторыі гэта азначае, што калі нам хочацца, каб купалаўскі малюнак —

*Беларусь на куце*
*У хаце сваёй села, —*
*Чарка мёду ў руцэ,*
*Пазірае смела.*

ніколі не прагалошваў імпарт нядолі ў якасці галоўнага прынцыпу нацыянальнага жыцця:

*Эй, смяешся ты хіба,*
*мой гаротны Кандыба,*
*Растлумачу я ўсё тут іначай:*
*Самі мы вінаваты ў нашай долі праклятай,*
*У тым, што век мы бядуем і плачам.*

Дадамо, што галоўны пафас напісанага крыху пазней, у 1921 годзе, выдатнага адраджэнскага гісторыясофскага твора Ігната Абдзіраловіча “Адвечным шляхам” можна вызначыць менавіта як антыкандыбаўскі: “Цяпер жыццё поўна нядолі, бо мы не ўмеем быць тварцамі. Мы робім з нашага жыцця нямілую ні сабе, ні каму іншаму турму, і нерухомы, нятворчы дух пануе ў нашай панурай штодзённасці…”. Звернем увагу: “самі мы вінаваты…” (Янка Купала), “мы робім з нашага жыцця турму” (І. Абдзіраловіч), а не хто-небудзь іншы. Таму прагалошваць адваротнае і абіраць у якасці сімвала імпартаванай з Усходу нядолі дрэва ўдог з атрутнымі ягадамі, парасткі якога (углісы) пайшлі ва ўсе бакі, — як гэта і зрабіў аўтар прыпавесцяў, — азначае не што іншае, як адмаўленне нацыянальнаму жыццю як сістэме ў ягонай здольнасці на самаразвіццё, самаруханне ў якасці таго ж самага асноўнага прынцыпу, што, як бачым, цалкам супярэчыць і купалаўскаму, і абдзіраловічаўскаму пункту погляду на гэты конт. Яны развіталіся з падобнымі ілюзіямі амаль сто гадоў назад; дык навошта аўтару спатрэбілася ўваскрашаць іх зноў на пачатку новага тысячагоддзя? А Ф. Сіўко — трэба іншага характару з тае прычыны, што ўвесь ён, Усход, — суцэльная апрычніна. Зачэпімся за гэтае слова і звернемся да твора, які апісвае гэтыя ж самыя падзеі і ў гэтым жа самым годзе, што і Ф. Сіўко, — да вядомага рамана А. Талстога “Князь Сярэбраны” (1862): “Опомнясь наехало их человек десять на двор к Степану Михайлову, вон тот двор, что на запоре; Степан-то был в поле; они к старухе: давай того, давай другого. Старуха все ставит да кланяется. Вот они: давай, баба, денег! Заплакала старуха, да нечего делать, отперла сундук да вынула из тряпицы два алтына, подает со слезами: берите, только живу оставьте. А они говорят: мало! Да как хватит ее один опричник в висок, так и дух вон! Приходит Степан с поля, видит: лежит его старуха с разбитым виском; он не вытерпел. Давай ругать царских людей: Бога вы не боитесь, окаянные! Не было б вам на том свету ни дна ни покрышки! А они ему, сердечному, петлю на шею, да и повесили на воротах!” Мабыць, камусьці гэты эпізод падасца вельмі ўжо камерным. Ёсць іншыя, маштабныя эпізоды. Такім чынам, высвятляецца, што гістарычная праўда заключаецца ў тым, што апрычнікі не шкадавалі нікога — ні сваіх, ні чужых. Просты безабаронны люд быў іхняю ахвяраю з абодвух бакоў, і з гуманістычнага пункту погляду смерць ліцвіна-гандляра нічым не адрозніваецца ад смерці Сцяпана Міхайлава, для якога апрычнікі — тая ж самая пошасць, што і для нашага ліцвіна. Спачуванне пісьменніка — і гэта падаецца ці не першым маральным імператывам мастака — з прывіду стаўся явай, неабходна, каб у беларускай гістарычнай прозе, прысвечанай непасрэднай беларускай мінуўшчыне,

а) пазнавальна-этычная пазіцыя аўтара супадала ці прынамсі была сугучнай перш за ўсё пазіцыі чытача, а не героя,

б) аўтар мусіў адшукаць пераканаўчае і ўстойлівае каштоўнаснае апірышча па-за сваім героем (ці героямі).

Вось пра што падумалася перш за ўсё, калі была перагорнута апошняя старонка новай кнігі Франца Сіўко “Ягня ахвярнае” (Віцебск, 2003), якая складаецца з цыкла гістарычных прыпавесцей пад назвай “Удог”.

“Удог” — гэта сапраўдны беларускі твор эпохі пералому стагоддзяў і тысячагоддзяў, калі мы развітваемся шмат з якімі ілюзіямі і, мабыць, гэтае занадта зацягненае развітанне з імі і з'яўляецца сапраўдным вытокам нашай сённяшняй нацыянальнай драмы (хтосьці гаворыць і пра трагедыю).

Аўтар распавядае пра тое, як на нейкае ліцвінскае мястэчка наляцелі царскія апрычнікі, палютавалі і адправіліся ці то далей, ці то туды, адкуль прыйшлі: “Першым схапілі высокага, з шырокімі, на буслінае крыло ў лёце, плячамі, ліцвіна-гандляра… Гандляра павалілі на снег, пабраўшы галаўні, пачалі вадзіць імі па пасінелым ад сцюжы целе… Апрычнікі папрывязвалі паўжывых мужчын да вазкоў, лупцуючы коней, навыперадкі памчаліся да ракі. Жанок і дзяцей згрузілі на астатнія, павезлі следам… Калі палонкі былі гатовыя і вада хлынула з-пад лёду на снег, тыя, што засталіся на мосце, пададвязвалі безуладныя, абабітыя аб наледзь на дарозе целы мужчын, з рогатам паскідвалі іх у ваду. Затым тое самае зрабілі з жанчынамі і дзецьмі… тых, хто і ў палонках праціваліся смерці, дабівалі шаблямі. Калі патапілі ўсіх, рушылі да кляштара па манахаў… Затым хаўрус рушыў у другую, бяднейшую частку мястэчка. Жыхары яе, галоўным чынам адзінаверцы апрычнікаў і жыды, пахаваліся дзе хто мог. Іх павыцягвалі са схованак, замардаваўшы да непазнавальнасці, пасеклі шаблямі”.

На думку аўтара, гэтыя падзеі — толькі пачатак усіх тых бед і няшчасцяў, якія абрынуліся на родны край. Пачатак, які амаль заўсёды ў інтэрпрэтацыі Ф. Сіўко мае выразны ўсходні накірунак літаральна да канца мінулага стагоддзя (апошняя дата ў творы — 1998 год). Аднак не гаворачы ўжо пра тое, што разуменне знешняга адмоўнага ўздзеяння як уздзеяння амаль выключна аднабаковага — тыповы прыклад гістарычнага атавізму ў аўтарскай свядомасці, праклamаванае аўтарам імпартаванне нядолі — гэта не што іншае, як адваротны бок сумнавядомага экспарту рэвалюцыі (ці долі). Тое, што адмоўнае ўздзеянне было, і было яно як мінімум двухбаковым, лепей за Купалу — і гэта пасля ўсіх рэвалюцый, у канцы 1918 года, — здаецца, ніхто так і не сказаў:

*Чужы і свой хлеб*
*станавіцца жорсткім комам*
*І душыць кліч:*
*ці доўга будзе нам заломам*
*Варшава панская і царская Масква!?*

Не адмаўляючы гэтага, Янка Купала (у адрозненні ад нашага сучасніка Ф. Сіўко) тут аддаць яму належнае — робіць гэта з зайздроснай паслядоўнасцю. Мабыць, трэба было б крыху пралічыць наперад, паспрабаваць прадбачыць, да чаго можа прывесці падобны ход мыслення ў мастацкай сістэме ўласнага твора? Таму што ён, на маю думку, абсалютна лагічна (і думаецца, што даволі нечакана для самога аўтара) прыводзіць у рэшце рэшт да адзіна магчымага ў такіх абставінах выніку: “Ну, так, значыцца, гэта мая хата. А гэта Бакевічава. Тамака воддаль — Старынскіх. Усе, кром маёй, пустыя. Глянеш каторы раз, і ворах шыбанець. Жартачкі, як труны тыя хаты стаяць, нідзе нікагусенькі. Дажыліся… Што яшчэ вам паказаць, ня здумаю. Можа, магільнік? Хадзіце паглядзіце… Магілы Люся з Толікам даглядаюць. Тэж ужо пенсіянеры, унукаў гадуюць. Па-нашаму ўсе гавоpуць. І тут, на магілках, відзіце, па-беларускі напісана. Толік настаяў. І мне тое самае раіў зрабіць, але я пастыдалася. Якая там разніца, па-якому напісана, адзін чорт.” (1998. “Полымя”)

Чаго ж “пастыдалася” старая калгасніца і чаго не “пастыдаўся” ў такім выпадку прадзвінуты ў беларушчыне Толік? Наўрад ці Польця знойдзе адпаведныя словы, таму за яе паспрабую адказаць я: няма сумнення, што беларускі надпіс на могілкавым помніку з'яўляецца для аўтара і яго героя Толіка сімвалам адраджэння беларушчыны, у той час калі атрутнае дрэва ўдог сімвалізуе антыбеларускія сілы на роднай зямлі. І ў гэтым сэнсе ў ідэйнай канцэпцыі твора яны супрацьпастаўлены адно аднаму. Але на самай справе гэтае супрацьстаянне — суцэльная фікцыя, таму што ўдог ніколі не расце і не рос на могілках! І старая Польця, пані “касы і сахі”, змалку пра тое ведае. Таму ёй і сорамна за Толіка і ўсіх астатніх, бо з гэтага вынікае той несумненны факт, што беларускі надпіс на могілках, як казаў бы А. С. Пушкін пра Толіка, “ему не стоит ничего”, а калі “ничего”, дык якая розніца, на якой ён зроблены мове. Тады надпіс па-беларуску — гэта толькі сімулякр, падманка, бо праціўніка там, на могілках, няма і ніколі не было.

Увогуле ў творы пануе суцэльная, абсалютная, я сказала б, таталітарная сур'ёзнасць, быццам бы жартаўлівых Пісарэвічаў не было ні ў беларускай літаратуры, ні ў нашым жыцці. І паступова робіцца зразумелым: чаму: справа ў тым, што чалавецтва сапраўды смеючыся развітваецца са сваім мінулым і, значыцца, са сваімі ілюзіямі з гэтага ж самага мінулага таксама, — мае рацыю стары Карла, мае. Але калі чалавецтва (народ, пісьменнік) увогуле не збіраюцца з імі развітвацца, а наадварот, настойваюць на іх, то сапраўды, адкуль той смяшынцы ў творы і ўзяцца? Няма адкуль. Толькі і застаецца, што “горкім смехам сваім” пасмяяцца з могілкавага надпісу, — бо больш з чаго і няма.

На жаль, ні старая Польця, ні малы Пецька ў разлік Ф. Сіўко не бяруцца і, па-мойму, дарма. Таму што ігнараванне іхніх поглядаў на рэчы перашкаджае аўтару развітацца яшчэ з адной ілюзіяй, якая таксама з рэдкай паслядоўнасцю праводзіцца Ф. Сіўко праз увесь твор. Гэты тэзіс можна сфармуляваць наступным чынам: усходняе ўздзеянне на беларушчыну мае выключна адмоўны характар і не можа мець ніякага




— павінна быць на баку ахвяраў, ахвяраў усіх без выключэння. Калі ж пісьменнік робіць выгляд, што тых ахвяраў — няма, а ёсць толькі свае, што там, на Усходзе, выключна каты “з рукой забойнай”, — можна канстатаваць, што пазнавальна-этычная пазіцыя Ф. Сіўко разыходзіцца з маёй пазіцыяй як чытачкі цалкам.

Не ведаю, шчыра кажучы, ці можна падвучыцца гэтаму — здольнасці аднолькава сумаваць аб усіх забітых — у якой-небудзь навучальнай установе, але ў жыцця — можна: “…Из раскрытой двери военного вертолета черноволосый офицер вынимал еще не окостеневшее, словно бы спящее тело пятилетнего мертвого армянского мальчика. Принял на руки, передернулось слезной гримасой лицо, сглотнул рыдание. Передал следующему, протянул руки к открытой двери военного вертолета. Принял еще не окостеневшее, словно бы спяшее тело азербайджанского шестилетнего мальчика. Взял на руки, точно спящего сына. Передал следующему офицеру, тот принял, отнес, положил на траву, рядом с метрвым пятилетним армянским мальчиком. Протянул руки к раскрытой двери военного вертолета, принял убитого ребенка, прижался лицом к нежной, мертвой щеке…” (М. Ганіна. “Искушенные вновь…”).

Цана забітага жыцця ўсюды аднолькавая, і вызначаць яе ў залежнасці ад таго, пад'еў ці не пад'еў забойца напярэдадні “варыва” з атрутных ягад, у выніку чаго “здурнеў і пачаў рабіць абы-што” (напрыклад, забіваць дзяцей) — гэта ўсё роўна што забяспечыць забойцаў індульгенцыяй да канца нашага часу. Таму хочацца проста падзякаваць пісьменніку за магчымасць яшчэ раз выказаць гэта і, мабыць, дапамагчы зразумець гэтую простую рэч яшчэ каму-небудзь, хай нават і метадам ад супрацьлеглага.

Падобная аднабаковасць і нягнуткасць аўтарскага мыслення не лепшым чынам адгукаецца ў дзеяннях станоўчых герояў твора: паўстанцы не паспелі далучыцца да

ТВОРЧАСЦЬ

# НАТХНЕННЕ ДЗЕЛЯ ПРЫГАЖОСЦІ

У Талачыне, на невялікай пляцоўцы паміж гасцініцай і гісторыка-краязнаўчым музеем, напрыканцы ліпеня з'явілася адметная скульптурная кампазіцыя "Маладосць", зробленая па праекце і пад кіраўніцтвам мясцовага мастака і скульптара Юрыя Палякова. Гэта па-майстэрску ўвасобленая ў дрэве выява маладых, стройных, поўных імпэту і веры ў жыццё юнака і дзяўчыны. Кампазіцыя, несумненна, яшчэ больш упрыгожыла архітэктурна-мастацкі краявід прыкметнага кутка райцэнтра.

У апошні час увагу жыхароў і гасцей горада прыцягваюць шматлікія драўляныя і каменныя скульптуры з тварамі простых, мудрых нашых продкаў, а таксама маляўнічыя вывы казачных персанажаў — лясных звяроў. Усе гэтыя работы выкананы мясцовымі майстрамі і ўмельцамі: скульптарамі, мастакамі, выхаванцамі Дома рамёстваў, дзе ўжо які год кіруе секцыяй выяўленчага мастацтва чалавек з божай іскрынай таленту Юрый Палякоў.

Ён закончыў колішні Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, быў здольным вучнем вядомых скульптараў Анатоля Анікейчыка і Андрэя Бембеля. Цяпер ён з гонарам апраўдвае спадзяванні сваіх былых настаўнікаў. Аб гэтым яскрава сведчыць і той факт, што скульптурная работа Юрыя "Народныя пісьменнікі Беларусі Максім Танк і Пятрусь Броўка" служыць добрым дапаможнікам для новых навучэнцаў, бо знаходзіцца ў творчых майстэрнях Беларускай акадэміі мастацтваў.

А ў суседняй з Талачыном Оршы на вуліцы імя нашага вядомага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча адзін з дамоў, звязаных з яго жыццём і творчасцю, упрыгожвае мемарыяльная дошка з барэльефам гэтага таленавітага чалавека, які стаў гордасцю беларускай літаратуры.

Збываецца і цудоўная мара Юрыя Палякова — упрыгожыць скульптурнымі работамі, як уласнымі, так і тутэйшых студыйцаў, свой родны горад. Тут, у Талачыне, дзе нарадзіўся, набіраўся сіл, закончыў сярэднюю школу, праявіў свае творчыя здольнасці, і знаходзіць ён натхненне для ўвасаблення ў жыццё сваіх задум.

Алесь МАЗУР

ІМПРЭЗЫ

# ГУЧАЛА БЕЛАРУСКАЕ

У сталіцы выступіў Аркестр народных інструментаў Магілёўскай абласной філармоніі пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Леаніда Іванова. Канцэрт адбыўся ў зале Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі і прысвячаўся 70-годдзю Беларускага саюза кампазітараў.

Праграма складалася з твораў А. Багатырова, У. Алоўнікава, Я. Глебава, І. Лучанка, В. Іванова і аўтарскага канцэртнага аддзялення У. Браілоўскага. Два новыя творы гэтага кампазітара слухачы прынялі асабліва цёпла: раманс "Мой мілы" ў выкананні лаўрэата Міжнароднага конкурсу "Рамансіяда-99" А. Мацярынкі ды песню "Бацькоўскі дом", выкананую лаўрэатам фестывалю "Залаты Шлягер"-97" Паўлам Усовічам.

Народны артыст СССР І. Лучанок, які прысутнічаў на канцэрце, даў вельмі высокую адзнаку выканальніцкаму майстэрству аркестра. Дарэчы, пад акампанемент гэтага калектыву ў канцэртах Міжнароднага фестывалю "Залаты Шлягер" спявалі вялікія артысты: З. Саткілава, Б. Штокалаў, В. Нарэйка.

Л. МАЦКЕЛА

ПАЭЗІЯ

Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ



## РОЗДУМ НАД СЛОВАМ

*Званы царквы ў вышыні*
*неслі славу,*
*І хор з малітвай*
*паўтараў за імі*
*Імя Рагнеды сына —*
*Ізяслава.*
*Імя яе — асветніцы-княгіні.*
*І разышліся хмары*
*над Заслаўем,*
*То свята асвяціць*
*спяшала сонца:*
*Людскую памяць, славу*
*продкаў слаўных*
*І Слова роднага*
*вялікасць і бясконцасць.*
*Не гаварыце: мова вымірае!*
*І не хавайце і не адпявайце.*
*На ёй гаворым,*
*думаем,*
*спяваем,*
*То не аплакваць —*
*шанаваць давайце.*
*Нясвіж, Мсціслаў, Заслаўе,*
*Мір пацвердзяць:*
*Нам не на згубу дадзенае Слова!*
*Што памірае мова родная,*
*не верце,*
*У палатне жыцця яна —*
*аснова.*
*І покуль я і ты*
*па той аснове*
*Упарта тчом жыцця свайго*
*дарогу,*
*Жыць будзе наша Слова, наша мова,*
*Падораная нам аднойчы Богам.*

## УСЁ МЯНЯЕЦЦА

*Усё мяняецца аднойчы:*
*маладзік,*
*праз поўню, ветаха сярпочкам*
*стане,*
*Вясна бруіла скрозь, а ўжо —*
*глядзі —*
*прапела й лета песню развітання.*
*Апалых лісцяў шапаткі*
*дыван*
*напамінае, што цяпло*
*сыходзіць,*
*яшчэ крыху — і белая зіма*
*закружыць у сняжынак*
*карагодзе.*
*Закружыць, завіхурыць,*
*пазаве*
*на дапамогу ветры-снегавеі...*
*Растопіць іх пасля*
*вясновы спеў,*
*Ізноў на шчасце дорачы надзею.*

●

*Няхай сабе віхурыць восень*
*Сваёй мяцеліцай лістовай,*
*А ў сэрцы — лета адгалоссем —*
*Твае прасветленыя словы.*

*Якія не стамлюся слухаць,*
*Калі ўжо і закарагодзіць*
*Зімы сівая завіруха —*
*Сагрэюся ў іх лагодзе.*

●

*Палёт лістоў*
*змяняе лёт сняжынак,*
*Ільдзінкі ціха*
*стынуць на вадзе...*
*А я ўсё шукаю*
*той сцяжынкі —*
*адзінай той,*
*што да цябе вядзе.*
*Я ўсё жыццё*
*шукаю той сцяжынкі —*
*той, што да сэрца*
*любага вядзе.*

●

*Замаёвіла ў садзе,*
*заквеціла...*
*Ну чаму было не сустрэцца нам*
*На сцяжынках былой вясны?..*
*Толькі як залацела*
*калоссямі*
*Наша лецейка перад восенню,*
*Зваражылі сустрэчу сны.*

---

Ігар КЛЕПІКАЎ



## ХУТКА ЗІМА...

*Хутка зіма*
*Камянее гразь на дарогах*
*Ледзянее сінеча нябёсаў*

*Хутка зіма*
*Не чутно і жабак пад ганкам*
*І павук адступіўся ад кроснаў*

*Хутка зіма*
*І штораніцы іней на вокнах*
*Ліст на дрэве вагаецца — позна*
*Ці не — аблятаць?*

*Хутка зіма*
*І цішыня ў правалах*
*Пыл у паштовай скрыньцы*
*Кропля знікла ў ільдзінцы*
*Хутка зіма...*

●

А.

*Мне з Вамі не сустрэцца*
*ў вольнай Вільні —*
*Ізноў над галавой варонаў крылле...*
*Злавесны шэпт,*
*як колькі год таму...*
*І, зноў пераступаючы ў зіму,*

*Палохаю, бы грукатам падкоў,*
*Свінцом незразумелага пытання*
*Самотных выпадковых мінакоў...*
*Але, на жаль, яснавяльможна пані,*

*Падобна, што не бачыў з іх ніхто*
*Ні Вас у вашым жоўтым паліто,*
*Ні нават фотаздымкаў*
*Вострай Брамы...*
*Мне ў вольнай Вільні*
*не сустрэцца з Вамі,*

*І з Вамі не ўцячы ад навальніцы,*
*Між Полацкам і Вільняй*
*не згубіцца...*
*І лёгкім смуткам агарнула сэрца —*
*У Вільні нам не выпала сустрэцца...*

*Хіба ў метро, пад іншаю сталіцай,*
*Убачыць, ... не пазнаць, ...*
*ізноў згубіцца*
*Ў натоўпе, і да сонца паасобку*
*Ісці жыццём,*
*падобным на падробку...*

*Але каму тады Вы гаварылі*
*"Чаму я не сустрэла*
*Вас у Вільні?" ?!*

## ВОСЕНЬ...

*Восень,*
*якая прыносіць надзею,*
*што ўвесну*
*крыху пацяплее...*

*Восень,*
*якая збірае ўліковыя карткі*
*жоўтага лісця*
*ў алеях і парках...*

*Восень,*
*якая ў маіх успамінах*
*нячутна здымае падводныя міны...*

*Ратуе мяне*
*ад летняе стомы...*
*Рыхтуе мяне*
*да зімы незнаёмай...*
*Шліхтуе аблокамі чыстую просінь*
*Восень...*

## DEPRESSIVA

А.

*За каваю нібыта палягчэла...*
*Хапіла нечакана нават моцы*
*ўсцягнуць на твар ад ранку*
*звыклы выраз —*
*чужую камуфляжную усмешку.*
*Зашкаленыя стрэлкі выйшлі вонкі*
*і цішыня аслеплых цыферблатаў*
*пяе кратам пра ліпеньскае сонца.*
*А нечы голас (можа, галасы?)*
*Казычa шэптам хваляў валасы,*
*даводзіць, што не трэба хваляваццa*
*і сэнс шукаць — бо лёгка ашукацца.*
*Аблокі за акном — нібыта дым*
*мінулым летам згаслай цыгарэты,*
*і на пялёстках варыянты мэты,*
*схаваныя ў гербарыі ні з чым...*
*І гэтыя доўгі,*
*вельмі доўгі шэры дзень...*
*І белы цень...*

## ТРЫЦЦАЦЬ ДЗЁН ДА ЗІМЫ

*У паветры*
*крадуцца сняжынкі*
*ледзь заўважныя вяжы*
*нібыта далёкай зімы*

*Між зямлёю і небам холад*
*восень рыхтуе ў дарогу*
*на легендарны поўдзень*
*Хутка ў яе акопах*
*мы застанёмся адны*

*Бо лісце знямоглае*
*пакідае свае пазіцыі*
*пакідае аголенымі*
*лініі абароны*
*на зняверанных дрэвах*
*У сумных птушыных спевах*
*даўно прадказаны*
*вынік гэтай вайны*
*Хаця*
*яшчэ трыццаць дзён да зімы...*

## АЎТОРАК

*Зіма*
*І шэрае над белым*
*Пад каламуццю неба поле*
*Аўторак*
*Прыцемкі*
*І пад недасягальнай столлю*
*Іду*
*Адзін у свеце цэлым*

*Адкуль*
*Куды*
*Нібыта помню*
*Але чамусьці ў варыянтах*

*Імя*
*І тое мушу выбраць*
*Сабе сярод даўно забытых*
*Нібыта на мяжы нябыту*
*Іду*
*І цішыня абрыдла*
*Ды шолах крокаў глухне звыкла*
*Упаўшы ў попел фаліянтаў*
*Той попел*
*Квінтэсенцыя паўпраўды*
*Якую іх старонкі неслі свету*

*Цяпер той попел размятае вецер*
*Аўторак*
*Вечар...*

## TERTIUM NON DATUR*

*Чорнае — белае,*
*Чорнае — белае...*
*Катэгарычнасць не ведае шэрага,*
*Катэгарычнасць не ведае колераў.*
*Акрамя двух, у каторых дазволена.*
*Хоць памыляцца*
*нярэдка даводзіцца,*

*Нечаканую, ды лагодную —*
*Я сустрэла душу мне родную,*
*Адгукнулася ціха ёй...*
*З той сустрэчы шчаслівай*
*першае*
*Нашы душы святлом павенчаны*
*І бязгрэшнаю чысцінёй.*

*Ты ў лёсе маім не знічкаю,*
*А вадою жывой крынічнаю —*
*Асцярожна так прыгублю...*
*Той бяды, што не майскай*
*квеценню,*
*Ды пашчасціла усё ж*
*сустрэцца нам.*
*Я шчаслівая,*
*я — люблю.*

•

*Калі пяра майго ўзмах*
*Хоць аднаму паможа,*
*Узнагародзіў нездарма*
*Мяне Ты Словам, Божа.*

*Калі хаця б адной душы*
*Мой спеў душы патрэбны,*
*Я буду пець, пакуль мне жыць,*
*З удзячнасцю да неба.*

*Дзяліцца сэрца цеплынёй*
*І добрай Слова сілай,*
*Каб зерне, кінутае мной,*
*Не згінула — ўрадзіла.*

*Ўрадзіла коласам тугім*
*З зярнятак роднай мовы,*
*Каб і пасля мяне — другі*
*Лагодзіў тыя словы.*

*Як найсвяцейшае бярог*
*З пашанай і ў любові*
*Той скарб, што падарыў нам Бог —*
*Душы святло і Мову.*

---

*Ды трэці колер*
*дайно тут не водзіцца.*
*Могуць збянтэжыць*
*і самага смелага:*
*Чорнае — белае,*
*Чорнае — белае...*
*Нават адценням тут месца*
*не знойдзецца —*
*Мае правы толькі яўная розніца,*
*І кампрамісы —*
*тут рэчы нязвыклыя,*
*Тут верагодныя толькі абрыдлыя*
*Мне аж да смерці аблічча цэлага:*
*Чорнае — белае,*
*Чорнае — белае...*

*Трэцяга не дадзена (лац.)

•

*За мяжою вачэй*
*схаваны іншы сусвет...*
*Паміж дзён і начэй*
*несупынна шукаеш след.*
*След, які прывядзе*
*пад іншага сонца святло.*
*Але ў чорнай вадзе*
*нябачнае стыне шкло,*
*Што мацней за браню —*
*цераз яго не прайсці.*
*Не рабі ахвяры агню —*
*у ім не знайсці*
*Нават згадкі пра шлях,*
*што так патрэбны табе...*
*Цень адказу ў... вачах.*
*Шэрых, бы ў прыцемках снег.*

•

**Т. Б.**

**(верш-партрэт)**

*Смуглявы твар,*
*трывогі нейкай след,*
*Вачэй разумных іранічны позірк,*
*Упартасць вуснаў, горды сілуэт —*
*Такая на каленях не папросіць.*
*Гатовая да горшага ў жыцці,*
*Заўсёды выглядае незвычайна.*
*І не шукае выйсця ў забыцці,*
*Хоць здатная парой на крок адчайны.*
*Каго кахае? Пэўна ж, не мяне —*
*Нас лёс шляхамі рознымі кіруе.*
*А можа, раптам... Думаю, што не —*
*Багі дайно ўжо гэтак не жартуюць.*

## БЯСКОНЦАСЦЬ

*У цішыні няўмольны метраном*
*Адлічвае пражытыя імгненні,*
*На развітанне з адгарэлым днём*
*"Хей, Джуд" з касеты нам спявае*
*Ленан,*
*А мы маўчым, і кожны — пра сваё,*
*Схаваныя надзейна цёплай цемрай,*
*Не жалімся на звыклыя праблемы,*
*А п'ём з табой начное забыццё,*
*І мірыцца з бясконцасцю жыццё —*
*Бясконцасцю,*
*што склалася з імгненняў...*

# МІНІ-ПРОЗА

**ПРОЗА**

## НЕНІУ І АРЫЯДНА

Маё імя — Неніу. Бацька яго недзе вычытаў і падумаў, што для мяне лепш не прыдумаеш. Мы з бацькам працуем разам, і кліенты ў нас адны і тыя ж. Я наёмны забойца, а бацька следчы. Так што спачатку сваякі прыходзяць да мяне "замаўляць", потым я забіваю, і яны бягуць да бацькі і бацька вядзе следства. Трэба вам сказаць, што лепшага следчага я ніколі не бачыў. Ён кожны раз усё вельмі хутка раскрывае, але злачынцу ніколі не ловіць. Таму што, па-першае, наш сабачка Брэхт ніколі на мяне не забрэша (ідзі сюды, Брэхцік, пашкрабу за вушкам), а па-другое, мой бацька ніколі не верыць, што я магу быць забойцам. "Вы што, звар'яцелі?! — крычыць ён. — Хутчэй муха пакрыўдзіць майго Неніу, чым мой Неніу пакрыўдзіць муху!" Гэта сапраўды так. Я ніколі не крыўджу мух. Мне да іх проста няма справы. Таму я не пярэчу. Бацьку заўсёды засмучае, што пра мяне маглі такое падумаць, і мы з'язджаем у іншае месца. Пра нас усе ведаюць і ўсе нас вельмі чакаюць, каб вырашыць свае сямейныя справы.

Цяпер вось таксама мы прыйшлі ў вёску, і ўсе нас адразу заўважылі, і я ўжо ведаю, хто прыйдзе паперш да мяне, а да бацькі на дзень пазней. Да адной з агародж дзяўчына падскочыла і мне падміргвае. Каля другога паркана мне адразу трое падміргваюць, каб я зайшоў да іх, але я не зайду.

Брэхцік бяжыць раўнютка, я вельмі ганаруся нашым разумным сабачкам. Але цяпер думаю пра дзяўчыну, якую пабачыў раней за ўсіх: ці здолеў бы я забіць яе, калі б мяне папрасілі? Шэптам пытаюся ў нашага сабачкі: "Скажы, Брэхцік, наколькі абыякавы Неніу? Ці зможа ён забіць вунь тую дзяўчыну, якая яму ВЕЛЬМІ ПАДАБАЕЦЦА?" Брэхцік глядзіць на мяне і адказвае: "Толькі Неніу ведае, што ён зробіць, а што не. Прынамсі, я цябе не выдам". — "Дзякуй, Брэхцік, ты сапраўдны сябра", — прамаўляю і іду далей, Брэхт бяжыць побач. Насустрач нам выходзіць гаспадар, запрашае ў дом і тлумачыць:

— Вось пакой для спадара следчага, а гэты для сына спадара следчага.

Мне ціхутка шэпча, каб бацька не чуў:

— Сыдзі ўніз, там цябе чакаюць.

Чакае цэлая сям'я. Яны мне кажуць:

— Мы многа чулі пра цябе, Неніу. Твой лук не ведае промаху, а нож у палёце напалам разразае курыцу. Забі Арыядну, мы добра заплацім.

— Дзе мне шукаць яе?

— Табе не трэба шукаць. Зараз мы выправім дзяўчыну да ракі збіраць парэчкі. Ты прыйдзеш туды і заб'еш яе. Мы скажам, што гэта ўчынілі бадзяжнікі, табе ніхто нічога не зробіць.

Мне чамусьці здаецца, што яны гавораць пра тую дзяўчыну, якая мне падміргвала, таму цікаўлюся:

— А навошта вам ейная смерць?

— У-у! Гэта такая дрэнь! Калі б мы першыя не прыйшлі да цябе, каб ты забіў яе, яна прыйшла б, каб ты знішчыў нас!

Я згодны. Мне ўсё адно. Сёння я прыйшоў сюды, праз дзень-другі я адсюль знікну. Так заўсёды. Я забіў многіх тоўстых непрыгожых мужчын. Я змярцвіў няголеных саракагадовых выбрыдкаў. Я спакойна страляў у майго аднагодка. Але ніколі не спрабаваў пазбавіць жыцця дзяўчыну, якая мне ВЕЛЬМІ СПАДАБАЛАСЯ.

Вядома ж, Арыядна — гэта яна. Я пытаюся ў сябе: што такое МНЕ ПАДАБАЕЦЦА? Што такое я? Калі-небудзь хто-небудзь прыйдзе і скажа: "Забі Неніу. Як табе зручна. Мы дадзім шмат грошай". Вось так, мой Брэхцік. А што ты тады скажаш? Не выдасі мяне, не будзеш скавытаць над маім трупам?

Урэшце, трэба ісці. Брэхцік усё разумее, застаецца ў кутку, найразумнейшае стварэнне з усіх, каго я ведаю.

Я сыходжу ўніз, да ракі. Там, ля берага, кусты парэчкі. Арыядна ўжо прыйшла, зрывае парэчкі і кідае іх на зямлю. Дзяўчына ведае, чаму яна тут, яе кошык пусты, няма чаго несці яго дадому.

Я падыходжу спакойна, ведаю, што яна мяне чуе. Вырашыў — не буду на яе глядзець, заб'ю з заплюшчанымі вачыма.

Арыядна разумнейшая за мяне, адразу пачынае шпурляцца ягадамі і рагатаць. Я стаю, як дурань, і па маім твары цячэ чырвоны сок.

— Ты прыйшоў, каб знішчыць мяне, Неніу? Мае сваякі так напалоханы мною, што прыслалі забойцу? Хіба яны не ведаюць, што ніхто ў свеце не зробіць таго, чаго я не хачу?

Дзяўчына смяецца, і я разумею, што не хачу яе забіваць. Што такое Я НЕ ХАЧУ? А што такое ЯНА НЕ ХОЧА? Што такое ЯНА? Што такое Я?

Вокамгненна наважваюся, выхопліваю нож і збіраюся ўсадзіць яго сабе ў сэрца. Але яна ўжо перахапіла мяне за руку, трымае, як жалезнымі кляшчамі, рагоча і прамаўляе:

— Дурненькі Неніу! Ну што ж ты робіш? Я не хачу, каб ты забіваў мяне, але не жадаю і тваёй смерці. Ты мне адразу спадабаўся, Неніу, і я хачу, каб ты застаўся са мной.

"Хіба гэта магчыма? Маё жыццё пабудавана так: я забіваю, бацька расследуе, мы сыходзім. Я люблю майго бацьку і нашага сабаку Брэхта. Я не магу іх пакінуць".

— Я не магу, — адказваю Арыядне.

— Чаму не можаш? Я не падабаюся табе? Або табе больш даспадобы забіваць?

У руцэ Арыядны мая рука робіцца сіняй. Нож падае на зямлю.

— Ты падабаешся мне, — адказваю. — І я не хачу цябе забіваць. Але не магу пакінуць бацьку і нашага сабаку.

Зараз яна зламае мне руку. Не, расціскае пальцы і кажа:

— Прабач, я забылася.

Мне балюча, не магу апусціць руку. Стаю з узнятай і чакаю чагосьці. Арыядна гаворыць:

— Ну, хадзем! Трэба зрабіць гэта зараз, потым будзе позна! Так для ўсіх стане лепш, Неніу. Мае сваякі пазбавяцца ад мяне, а ты захаваеш чыстае сумленне. Пойдзем, я ведаю, што ў душы ты добры чалавек, муху не пакрыўдзіш. Думаеш, тваіму бацьку прыемна даведвацца пра твае забойствы?

— Ён нічога не ведае, — адказваю. Я не магу пакінуць яго. Хіба зможа бацька жыць адзін? І наш сабака таксама. Калі нешта зменіцца, ім зробіцца вельмі дрэнна.

— Усё ў свеце калі-небудзь мяняецца, людзі прызвычайваюцца да ўсяго. І сабакі таксама. Чуеш, Неніу?

— Чую, — адказваю. — Але я люблю іх.

Тут Арыядна прыціскаецца да мяне, абдымае і глядзіць у вочы.

— А мяне, Неніу? — пытаецца шэптам. — Ты кахаеш мяне?

І я разумею, што так, я кахаю яе больш, чым каго-небудзь дасюль. Мне таксама хочацца абняць дзяўчыну, але з пятнаццаці год мае рукі толькі забівалі. Я не ведаю, як тое зрабіць. Тады яна сама з маіх рук складае сабе абдымкі і пытае зноўку:

— Ты кахаеш мяне, Неніу? Я хачу, каб ты кахаў мяне, Неніу.

Яна абвівае мяне, як вужака. Я адчуваю сябе прыдуркам, загіпнатызаваным трусом, які зараз сам запаўзе ў пашчу гадаўкі, і там...

Раптам нехта са спіны штурхае мяне так нечакана, што я ледзь утрымліваюся на нагах. Гэта Брэхт са сваімі мокрымі лапамі. Выглядаем мы, напэўна, смешна. Арыядна здзіўлена пазірае на разумную морду сабакі, Брэхт звонка брэша з-за спіны, а я стаю з узнятай рукою, нібы семафор, пасярод усяго гэтага і ззяю, напэўна, чырвоным святлом, таму што мне вельмі сорамна.

Кусты рассоўваюцца, і адтуль з'яўляецца мой бацька.

— Неніу, што ты тут робіш? — пытае ён і заўважае Арыядну.

Яны вітаюцца, бачна, што ВЕЛЬМІ СІМПАТЫЗУЮЦЬ адно аднаму. І вось Арыядна прапаноўвае бацьку:

— Паедзем адсюль, прашу вас! Неніу ажэніцца са мною, ён згодны. Едзем зараз, інакш... Інакш здарыцца непапраўнае! Хутчэй жа, едзьма!

Бацька здзіўлены. Ён зіркае на мяне і пытае:

— Неніу, ты сапраўды хочаш ажаніцца з гэтай дзяўчынай?

Я пазіраю на бацьку і разумею, што ён вельмі хоча, каб я гэтага хацеў. Я гляджу ў вочы Брэхту і бачу, што ён жадае, каб я не засмучаў бацьку. Таму адказваю:

— Сапраўды.

Мы ад'язджаем адразу ж. Арыядна скрала коней і калёсы, коні хуткія, калёсы дрэнныя. Я сяджу з узнятай рукою, каля мяне ляжыць Брэхт, бацька глядзіць збоч. Арыядна лупцуе коней.

— Хіба ты не рады, Неніу? — пытае бацька.

Усе трое ўталопіліся ў мяне і чакаюць. Яны вельмі хочуць, каб я быў рады. Я ведаю, што ад гэтага ўсе вельмі ўзрадуюцца. Яны глядзяць і чакаюць.

А я ўсміхаюся...

## ЦУД

Аднойчы Віталік спытаў мяне: "Хочаш, я пакажу табе месца, дзе бегаюць электрычныя жалезныя змеі?" Я адразу сабе ўявіла маленькае таямнічае месцейка, дзе ў паўцемры снуюцца гнуткія бліскучыя змейкі — і звіняць, і пырскаюць іскрамі. "Хачу, вядома ж!" — я адказала, і мы пайшлі глядзець. Недалёка ад нашага дома была чыгунка, але каб пабачыць яе, трэба было пралезці праз плот, бетонны, але стары і з дзіркамі. Побач з плотам і нават трошкі далей раслі дрэвы — каштаны і яблыні, — а пад імі раслі грыбы. Мы іх часта збіралі і прыносілі дадому. Але нашы бацькі паміж сабой быццам змовіліся: ніколі не гатавалі, а заўсёды выкідвалі. Так што нікому з нас не пашчасціла даведацца смаку тых грыбоў.

І вось я ўявіла, што пад гэтымі дрэвамі, дзе ад цемры трава амаль не расце, ёсць кусты, і калі іх рассунуць, там, у сярэдзіне, на чорнай пляскатай пляцовачцы будуць віцца жалезныя электрычныя змеі і ціха-ціха, каб не чуваць было звонку, звінець і амаль бязгучна выпырскваць іскры.

Я так змарылася, калі мы з Віталікам падышлі да плота, але не спыніліся, пралезлі праз дзірку і апынуліся на гары. Адтуль унізе відаць было мноства паралельных дарожак-рэек, а на іх безліч цягнікоў. Адны ехалі, другія стаялі. "Вось яны — электрычныя жалезныя змеі", — задаволена сказаў Віталік і рукой паказаў на цягнікі.

Я тады вельмі пакрыўдзілася і вырашыла абавязкова адпомсціць, але не ведала, як. Дый не вельмі хацелася менавіта помсціць — мы з Віталікам усё ж сябры! Але хацелася зрабіць штосьці такое, такое! Каб ён ведаў, што я магу ствараць сапраўдныя цуды, а не выдаваць за прыгожых фантастычных змеек звычайныя цягнікі. Толькі атрымлівалася, што цудаў я ствараць не ўмею. Я шмат распавяла Віталіку небыліц, але ён ніводнай з іх не паверыў. Таму што я сама ў іх не верыла. Асабліва крыўдна было, што Віталік відавочна чакаў — што ж я супрацьпастаўлю электрычным жалезным змейкам? І тады я сказала, што без страху магу скочыць у каналізацыйны люк, на скрыжаванні, адчынены, з якога заўсёды ідзе пара. Той самы, у які аднойчы звалілася дзяўчынка з суседняга двара — і больш яе ніхто не бачыў. Віталік прамовіў: "А вось не скочыш". Калі б ён гэтага не сказаў, я б і не спрабавала. А так я сцяла ў грудзях увесь свой страх і скочыла.

І больш мяне ніхто ніколі не бачыў.

**Вера БУРЛАК**



"Прыкаванага" не быў уключаны ў план кінастудыі. Праект нават не абмяркоўваўся ў Міністэрстве культуры, дарэчы, як і астатнія на працягу апошніх пяці гадоў". У выніку стужка В. Рыбарава была знята на "Ленфільме", якому належыць правы на яе пракат.

"Прыкаваны" — карціна надзвычай прыгожая, паэтычная, з прадуманай кампазіцыяй кадра. Але пра тое, што даводзіць рэжысёр, з першага погляду агульначалавечае — дачка (А. Клюка) адшуквае свайго бацьку (У. Гасцюхін), які, не ведаючы пра сваё "бацькоўскае дачыненне" да дзяўчыны, мусіць заказаць ў яе, але, даведаўшыся пра такі "садомскі" грэх, горка каіцца, скараецца перад Богам — падаецца хваравіта-нервовым, ненатуральным, нябліжкім, як быццам высмактаным з пальца. (Дарэчы, першапачатковы сцэнарый, прапанаваны Рыбараву на "Ленфільме", быў цалкам перароблены.) Здаецца, што фільм зроблены чалавекам, які, як быццам, доўга не дыхаў свежым паветрам і, нечакана глытнуўшы яго, страціў адчуванне рэчаіснасці. Асабліва пафасным у стужцы падаецца эпізод, калі герой У. Гасцюхіна прыкоўвае сябе да царквы, каб не збегчы ад самога сябе, ад праўды, ад веры, ад кінутай ім сям'і, якія былі грэбліва адрынуты ім. Мы бачым героя, які доўга жыў у духоўным забыцці...

●

У тым інтэрв'ю адной з беларускіх газет В. Рыбараў прызнаваўся, што беларускае кіно нішчаць чыноўнікі з мёртвым маральным і мастацкім пачуццём. "Дзяржаўная палітыка ў галіне кінематаграфіі не павінна быць проста дэкларацыяй, а ўвасабляцца дзейсна, актам сумеснага намагання і творчасці", — лічыць рэжысёр.

Вядома, з гэтым меркаваннем цяжка не пагадзіцца. Але тады навошта майстру чакаць ад дзяржавы грошы на ўласныя кінапраекты, калі ён не згодны з яе палітыкай у галіне кінематаграфіі? Наіўна. Марна. Па-савецку. На мой погляд, у гэтай сітуацыі больш шчыра (і таму, хто адчувае сябе недаацэненым майстрам, і таму, хто хоча зняць абсалютна незалежнае кіно) альбо адмовіцца ад задуманага кінапраекта, альбо самастойна шукаць грошы (як цяпер зрабіў А. Кудзіненка). А чакаць грошы на свае фільмы з надзьмутымі вуснамі пакрыўджанага дзіцяці ў наш час даволі саманадзейна.

Памятаю, на мінулым кінафестывалі "Лістапад" падчас адной з прэс-канферэнцый мяне ўразіў аповед армянскага кінарэжысёра В. Чалдраняна, які, каб зняць свой фільм (дарэчы, пра рэжысёра, які шукае грошы на кіно), прадаў уласную кватэру, каштоўную калекцыю зброі. Бо, як прызнаўся рэжысёр, ён ніколі не рабіў кіно па заказе, а толькі, адгукаючыся на покліч продкаў, крыві.

●

Армянскі кінарэжысёр прызнаўся тады, што яго новы ігравы фільм "Сімфонія маўчання" суайчыннікі лічаць дакументальным. (У карціне, якая распавядае пра амерыканца армянскага паходжання, які вяртаецца на радзіму, каб купіць занядбаную лякарню для псіхічнахворых, у ролі аднаго з "псіхаў" хацеў зняцца нават генеральны пракурор рэспублікі). У гэтым прызнанні і бачыцца мне адказ на пытанне, зададзенае напачатку матэрыялу. Вось калі беларускія гледачы палічаць хоць адну найноўшую айчынную ігравую стужку дакументальнай (г.зн. блізкай сабе, менталітэту, сучаснай гісторыі краіны), тады і Гран-пры Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў не застанецца без свайго ўладальніка. Сёння нам як свежае паветра неабходны беларускі рэжысёр (накшталт вельмі іспанскага П. Альмадовара ці вельмі італьянскага Р. Беніньі), падчас прагляду фільмаў якога будзе адбывацца нацыянальная самаідэнтыфікацыя. "Цікавым за мяжой можна быць толькі на сваёй глебе, — упэўнены рэжысёр А. Кудзіненка. — Трэба рабіць не інтэрнацыянальныя баевікі накшталт "Роніна", а здымаць, як фін Акі Каурысмякі, каларытнае нацыянальнае кіно... Я лічу, што ў Беларусі ёсць глеба для развіцця жанру, скажам, фальклорнага хорару, "жудзіка". У беларускім фальклоры, можна знайсці такія сюжэты, такіх персанажаў!.. Каб увайсці ў еўрапейскі кантэкст, трэба падкрэсліваць сваю індывідуальную выключнасць. І спадзявацца на міжкультурны дыялог".

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

***Кадры з фільмаў "Эскіз на маніторы" і "Сяброўка Восень".***

***Фота А. ДЗМІТРЫЕВА***

**ДАТЫ**

# У ГАСЦЯХ У КАРАТКЕВІЧА,

## або ДАВАЙЦЕ ПІСАЦЬ УСПАМІНЫ!

Творы Уладзіміра Караткевіча прыйшлі да мяне ў школьныя гады. Першым трапіўся зборнік "З вякоў мінулых". Быў 1978 год, вясна ці лета. Мабыць, я толькі скончыў васьмігодку і ездзіў у сталіцу выбіраць сабе тэхнікум. Дагэтуль мае чытацкія густы фарміраваліся пераважна фондамі вясковай школьнай бібліятэкі: Жуль Верн, Дзюма, Фенімор Купер, Джэк Лондан, "Прыгоды Тома Соера" Марка Твэна, кнігі вайсковай героікі, кшталту "Цусімы" ды "Порт-Артура", аповесці пра апошнюю вайну і безліч усяго зусім выпадковага і часцей за ўсё пасрэднага (пра мора, падарожжы, прыгоды і г. д.) Літаратура была спрэс рускамоўнай. З беларускіх кніжак чытаў толькі Маўра ды чамусьці перакладнога Гайдара. Дык вось, у сонечны дзень, а не золкім восеньскім адвячоркам, я спехам смакаваў "Дзікае паляванне караля Стаха", нібы баяўся, што адбяруць, не дадуць спазнаць яго таямнічую сутнасць. Так, праз Караткевіча, і па-беларуску, я ўпершыню напоўніцу "глынуў" дэтэктыўна-гістарычнай прозы. І, скажу я вам, — гэта было штосьці неніякавата. Нават і ў думках мы не маглі ў чымсьці сумнявацца. Але гэта для Караткевіча, напэўна, было справай прынцыповай. Зараз думаю, што такім чынам ён правяраў і трэніраваў сваю памяць. Калі гаспадар не мог адразу адшукаць патрэбнай кнігі ці адпаведнай мясціны ў ёй, ён неяк узрушваўся, нават нерваваўся. Але адразу спакайнеў і весялеў, калі знаходзіў жаданае. Здаецца, гэтыя кніжныя пошукі датычыліся самых разнастайных рэчаў. Памятаю, універсалізм яго ведаў проста ашаламіў мяне. Міжволі я адчуваў нікчэмнасць свайго інтэлектуальнага запасу побач з жывой энцыклапедыяй, уваасобленай у хворым, стомленым чалавеку. Зрэшты, пра гэта шмат напісана і неаднойчы гаварылася. Але, паверце, такое трэба бачыць на ўласныя вочы.

Мой сябра запытаўся пра Оршу, пра тое, што лучыла Караткевіча з родным горадам. Вось гэты момант я добра памятаю. Пісьменнік засмуціўся і неяк роспачна сказаў, што таго ціхага гарадка яго маленства ўжо няма. Цяпер ёсць зусім іншае. Нядаўна я перачытваў "Дзікае паляванне..." і цяпер разумею, як цяжка было жыць Мастаку, як балюча яму было пісаць пра тое, што ён хацеў бачыць і чаго не медалёкага ад літаратуры, Караткевіч быў сваім, блізкім. І ў тым непрытульным краі, на чужыне, імя яго ўспрымалася калі не як сімвал усяе Беларусі, то ўсё ж як нешта роднае і дарагое.

Наступны эпізод мне не вельмі прыемна ўспамінаць. Але... Набірала моцы перабудова. На філалагічным факультэце універсітэта існаваў аматарскі драматычны гурток. Рэпертуар, як кажуць, класічны. І вось узнікла ідэя паставіць "нерэабілітаваных" тады яшчэ "Тутэйшых" Купалы. Кіраўнікам-рэжысёрам задума не спадабалася. Тады прыгадалася, як быў у самы зорны застой на спектаклі "Тутэйшыя" ў пастаноўцы Валерыя Маслюка, тагачаснага рэжысёра Магілёўскага абласнога тэатра. Пастаноўшчык, напэўна, займеў вялікія непрыемнасці. Ды насталі іншыя часы. Маслюк працаваў у Мінску рэжысёрам рускага тэатра. Тэлефануем. Так і так. У адказ: "Прыходзьце ў тэатр. Пагаворым". Пайшлі ўсёй "трупай". А маэстра нечакана для нас прапанаваў: "Буду з вамі працаваць, але давайце паставім штось пра Караткевіча. Назва "Быў. Ёсць. Буду". Трэцяя частка за мной, а пра тэксты першых дзвюх — "Быў. Ёсць" — паклапаціцеся самі. Згода?" Кажам: "Згода".



верагоднае! Сапраўды, быў катарсіс. Звыклая будзённая сучаснасць мела, як аказалася, чароўную папярэдніцу — Мінуўшчыну. Ды такую рамантычную, загадкавую і незвычайную. Пазней чытаў Караткевіча шмат, але такога ўздзеяння ўжо ніколі не адчуваў.

Потым быў юбілейны вечар у Доме літаратара. Караткевічу — 50. Віншаванні, дыфірамбы, пажаданні, і ўсё цэнтры вельмі непасрэдны і нязграбны, як падалося тады, чалавек, які, відавочна, няўтульна адчуваў сябе пад святлом спякотных ліхтароў. Здавалася, яму было няёмка ад клопатаў, учыненых усім гэтым людзям у пaўночным зале.

Колькі часу прайшло пасля той вечарыны — дакладна не скажу. Неяк з аднакурснікам па фізічным факультэце БДУ Сяргеем Санько, аршанцам, пілі піва недзе ў цэнтры стольнага места. Гаманілі, спрачаліся — ці не пра беларускую фантастыку, якой тады, можна сказаць, увогуле не існавала. Ужо сцерлася ў памяці, каму прыйшла ідэя запрасіць на піва Караткевіча. Думка запала, спадабалася. І ўжо праз якую гадзіну мы атрымалі ў шапіку гарадскі хатні тэлефон Уладзіміра Сямёнавіча. І трэба ж, ён якраз надарыўся ў хаце. Але на нашу прапанову, спасылаючыся на нездароўе, адказаў сустрэчным запрашэннем да сябе на кубак кавы. Гэткага павароту мы аніяк не чакалі. Што рабіць? Не будзеш жа адмаўляцца. Гэта ж трэба было наважыцца двум правінцыялам, што паціраліся ў сталіцы, так нахабна напрасіцца ў госці да славутага пісьменніка! Крыху пабльталіся па вуліцах, павагаліся, але нарэшце націснулі на кнопку званка, як мне тады здалося, даволі страшнаватых і нейкіх строгіх дзвярэй. Сустрэла нас гаспадыня, правяла ў пакой. Уладзімір Сямёнавіч ляжаў на канапе і, па-мойму, узрадаваўся нашаму з'яўленню. А можа, мне гэта толькі здалося? Выгляд у яго быў стомлены, нейкі змардаваны, спакутаваны. Гаспадыня прынесла нам кавы, а хвораму — вялізны кубак гарбаты. Нявесела пажартаваўшы, ён згадаў пра сэрца.

Як ні дзіўна, зусім не памятаю, што казаў тады Пісьменнік пра фантастыку. А вось пра гісторыю гутарка ішла дакладна. Мяне надзвычай уразіла адна дэталь: калі Караткевіч пачынаў гаварыць пра мінуўшчыну, ён нібы ажываў — нават мяняўся знешне. Калі ж апавядаў пра тую ці іншую асобу ці падзею, то раз-пораз усхопліваўся, падыходзіў да паўнютакі і вялізнай, на ўсю сцяну, кніжнай шафы, перабіраў тамы і абавязкова знаходзіў у іх цытату, якая пацвярджала ці ілюстравала сказанае. Прынамсі, мне напачатку было аж ласа ў рэальнасці. Відаць, для чуйнага сэрца проста невыносна існаваць у свеце нялюбай сучаснасці, яе ў многім нялюдскіх прынцыпаў, і ўвесь час паривацца ў далёкую прывабную сферу няспраўджанай мінуўшчыны, створанай уласнай фантазіяй. Магчыма, памыляюся, але Караткевіч, здаецца, так і не адбыўся як пісьменнік сучаснай тэмы, хаця і напісаў вядомыя і ўвогуле неблагія творы і пра свой час.

Зноў даводзіцца казаць "здаецца", "мусіць", "па-мойму". У многім ужо не маю пэўнасці. Відаць, нарэшце ўвайшла гаспадыня, ці не нагадала пра рэжым, рэкамендацыі лекараў. Караткевіч паморшчыўся, развітаўся з намі і адпусціў без асаблівай ахвоты. Ці гэта так уяўляецца-помніцца сёння, а насамрэч было інакш? Усё ж, мабыць, аўтару "Каласоў..." самота без працы не вельмі была даспадобы. А я і не ведаў, што бачыў яго ў апошні раз.

Далей была служба ў войску — на Вятцы. Край, дзе заўчасна згас і спачыў Уладзімір Жылка, дзе колькі гадоў адпакутаваў высланы Максім Гарэцкі. Мясціны тыя звездалі і іншыя беларускія літаратары. Вестка пра смерць Караткевіча дайшла да мяне запознена. Хто ж з саслужыўцаў — узбекаў, малдаванаў, рускіх — мог зразумець, падзяліць смутак, шчыра паспачуваць з прычыны гэтай горкай навіны? Беларусаў жа было ўсяго пяцёра, і тых расцягнулі па адным па розных падраздзяленнях. Шчасце ў горы, што случак Сяргей Быкаў адзін прызначаны быў даглядаць і пільнаваць так званы паравік. Недзе знайшоў ён агарак свечкі і запаліў: колькі часу мы прасядзелі моўчкі. І для яго, чалавека

Пасля тры месяцы я пісаў тую злашчасную для мяне частку "Быў". Перачытаў усё даступнае тады з творчасці пісьменніка, нарабіў процьму выпісак, бо чамусьці наважыўся скласці яе толькі з рэплік караткевічаўскіх персанажаў. Ды як ні пнуўся, ні круціў, ні кампанаваў — усё марна. Так і не ўвасобілася ў жыццё добрая задума. Толькі цяпер разумею, што ў той частцы трэба было паказаць на сцэне "адведкі" хворага пісьменніка двума неабцяжаранымі ведамі "бэйбусамі". Як і было папраўдзе. Не даялося б нічога і выдумляць.

●

Прайшло нямала гадоў з таго часу, калі пісаліся гэтыя радкі. Перачытаўшы іх, падумалася, што сёння і гэтых, можа, у нечым і не зусім дакладных у нейкіх нюансах, драбніц ужо не прыгадаў бы. Час няўмольны, а памяць — не электронны рэзервуар. Яна зусім не падобна на хвост яшчаркі, які можна адарваць, бо абавязкова вырасце новы. Таму давайце не саромецца і, галоўнае, не ленавацца пісаць успаміны, бо ніякія, нават самыя цудоўныя, публіцыстычныя і навуковыя артыкулы не дадуць нашчадкам жывога ўяўлення пра тое, што было, было калісь!

**Ігар ЗАПРУДСКІ**

*P.S. 26 лістапада Уладзіміру Караткевічу споўнілася б 73 гады...*

***НА ЗДЫМКУ: Уладзімір Караткевіч у павільёне "Беларусьфільма".***

***Фота А. КАЛЯДЫ***

ВЫДАННІ

## ПА БЕЛАРУСКІМ ЧАСЕ ЖЫЦЬ...

**Выхад гэтага выдання ў свет не суправаджаецца ні гучнай рэкламай, ні хаця б якімі публічнымі абвесткамі. А дарэмна. Бо менавіта свой адрыўны каляндар, які ўжо больш як 10 гадоў выходзіць пад назваю "Родны край" у выдавецтве "Беларусь", дазваляе нашым суайчыннікам арыентавацца і ў родным часе, і ў роднай прасторы, і ў роднай гісторыі, і ў родных традыцыях.**

**Калі новае, маладое беларускае грамадства намагаецца ўсвядоміць сябе ў пошуках нацыянальнай ідэі, менавіта ён, сціплы і змястоўны каляндар, гэткі штодзённы гадзіннік беларускага часу, мог бы зрабіцца спадарожнікам сямейнага побыту ці не ў кожным доме!**

**Нават яго пагартаць — ужо цікава. Бо не проста забаўляльная, а і пазнавальная, і карысная інфармацыя ў нашым календары ёсць. Пра змену квадраў месяца і даўжыню дня, пра "чырвоныя"**




**даты і народныя прысвяткі з календароў, напрыклад, нашых суседзяўрасіянаў нічога дакладна не дазнаешся, бо там і астранамічны час ад нашага адрозніваецца, і летапіс падзей іншы, і традыцыі своеадметныя, і святы.**

**У календары "Родны край" на 2004 год (рэдактар-складальнік В. Кудзіна), апроч абавязковых штодзённых звестак і побытавых парад, пра што тут ужо гаварылася, ёсць багата іншага. І вершы (у тым ліку для дзяцей), і ўрыўкі з кніг (проза, краязнаўства, этнаграфія), і лакнічныя папулярныя нарысы пра дзеячаў культуры, пра постаці, адметныя для развіцця нашай навукі, мастацтва, пра гістарычных асоб. Пад многімі публікацыямі — і добра знаёмыя, і шаноўныя, і нават хрэстаматыйныя прозвішчы. Дэмакрыт. Стэндаль. Купала. Эліза Ажэшка. Іван Шамякін. Іван Навуменка. Рыгор Барадулін. Васіль Зуёнак. Уладзімір Карызна. Алена Васілевіч. Віктар Гардзей. Барыс Бур'ян. Фёдар Янкоўскі. Навум Гальпяровіч. Алесь Разанаў. Мікола Маляўка... Праця пераліку — такога стракатага! — толькі пацвердзіць імкненне стваральнікаў календара зрабіць яго змест па магчымасці аб'ектыўным і прывабным для самых розных жыхароў Беларусі.**

**А тое, што наклад яго ганебна малы — 10 тыс. асобнікаў, і што няма каму прапагандаваць прадукцыю дзяржаўнага выдавецтва, родны беларускі каляндар, "загнаны" ў падземны шапік пад плошчай Перамогі, гэта... Як назваць гэта — не ведаю. А "Родны край" набыць рэкамендую ўсім.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ЗГАДКІ

У час вайсковай службы на Балтыцы сябры-ўкраінцы падарылі мне салідны том паэзіі Лесі Украінкі. Маці мая была родам з Валыні, і ад яе я крыху ведаў украінскую мову. Паэзія Лесі Украінкі захапіла мяне так, што я тут жа пачаў перакладаць яе вершы на беларускую мову. Пераклаў многа вершаў, дзве паэмы і класічную драму-феерыю "Лясная песня".

Пасля дэмабілізацыі паказаў я свае пераклады кансультанту Саюза пісьменнікаў Міхасю Мікалаевічу Клімковічу, які параіў прапанаваць іх

— Во, хлопцы, паэзія. За сэрца бярэ.

— А вы добра чытаеце па-ўкраінску, — заўважыў я.

— Па-ўкраінску? — перапытаў Піліп Сямёнавіч. — Лэся Украінка не толькі ўкраінская паэтэса, але і наша, беларуская: усе жыхары Брэстчыны размаўляюць на той жа мове, на якой піша Лэся, і песні на яе словы спяваюць — "Канвалію", "Вішанькі-чарэшанькі", "Разбітую чарку"...

— Сямён Надсан быў здольны і арыгінальны паэт. А яна называе яго "бесталанным"..." — заўважыў я.

— Слова "бесталанны", — растлумачыў Піліп Сямёнавіч, — утворана не

генду расказ аб тым, як у пачатку вайны ён прабіраўся пешшу з Беластока ў Маскву праз глухія палескія мясціны, як партызаны западозрылі ў ім шпіёна, распаролі яго жабрацкую торбачку і былі здзіўлены, знайшоўшы там пасведчанне дэпутата Вярхоўнага Савета СССР. Не адразу паверылі, а потым перапраўлялі яго цераз лінію фронту на Вялікую зямлю...

Ён быў удзячны мне за тое, што я двойчы выступіў з рэцэнзіяй на яго раман "Сустрэнемся на барыкадах" — у часопісе "Беларусь" і ў брэсцкай абласной газеце "Заря". І, відаць, каб не быць у даўгу, пахваліў аднойчы:

# НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

### ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПІЛІПА ПЕСТРАКА

выдавецтву. У Дзяржаўным выдавецтве БССР *рукапіс праляжаў некалькі гадоў*, аж пакуль у рэспубліцы не пачалася падрыхтоўка да Тыдня беларускай літаратуры на Украіне, які мелася правесці ў 1957 годзе. Вырашана было павялічыць аб'ём рукапісу, пашырыць кола перакладчыкаў. Я тэрмінова звязаўся з Саюзам пісьменнікаў Украіны, узгадніў змест будучай кніжкі. *Перакладчыкамі* згадзіліся быць А. Астрэйка, Э. Агняцвет, А. Вольскі, А. Вялюгін, М. Аўрамчык, Н. Гілевіч, Ю. Гаўрук, С. Дзяргай, С. Грахоўскі, У. Корбан, І. Капеснік, П. Пранузa, А. Астапенка, М. Хведаровіч, К. Цітоў. Прадмову ўзяўся напісаць Рыгор Шкраба.


Максім Лужанін, Піліп Пестрак і Эдзі Агняцвет сярод школьнікаў.

Выдавецкім рэдактарам быў прызначаны Рыгор Няхай. Каб паскорыць падрыхтоўку рукапісу да выдання, яму і мне праўленне Саюза пісьменнікаў набыло бясплатныя пуцёўкі ў Дом творчасці "Каралішчавічы".

Стаяла снежная і завірушная зіма. Казачны заснежаны лес абступаў двухпавярховы драўляны дамок, шумеў пад самымі вокнамі. Адпачываючых было мала — прыехалі толькі тыя, хто спяшаўся ці дапісаць твор, ці ў цішыні вычытаць карэктуру, машынапіс. Нам ніхто не перашкаджаў, і мы днямі і вечарамі аж да паўночы, узброіўшыся слоўнікамі, звяралі і правілі пераклады. Рыгор Няхай у час вайны партызаніў на Украіне, ведаў гутарковую мову сялян Кіеўшчыны.

У самы разгар нашай працы прыехаў, як ён казаў, "адпачыць і тварыць" Піліп Сямёнавіч Пестрак.

— Буду дапісваць свой раман "Серадзібор". А ўвогуле, — прызнаўся ён, — мне і адпачыць ужо не грэх: которы год без адпачынку, працую як той вол...

— Правільна! — падтрымаў яго Рыгор Восіпавіч. — Надвор'е цудоўнае тут, цішыня...

— Надвор'е цудоўнае, а вы не гуляеце. Чым так занятыя?

— У нас тэрміновае заданне — рыхтуем у набор кнігу Лесі Украінкі.

— Лэсі Украінкі! — узрадаваўся Піліп Сямёнавіч. — Гэта ж цудоўная паэтэса! Вось паслухайце:

Смутна оселя! В веселій країні,
В горах зелених, в розкішній долині
Місця веселого ти не знайшов,
Смутний співець! Умирать в самотині
В смутну оселю прийшов, — чытаў напамяць ён па-ўкраінску, з захапленнем цяжкіх для вымаўлення неўкраінцам складаных чаргаванняў мяккіх і цвёрдых зычных. Дачытаў да канца:

— *Смутная муза літа в самотині,*
Кличе поета свого.

ад слова "талент", а ад слова "талан" — удача, шчасце. Ёсць жа ў нас такая прымаўка: "Беднаму Івану няма нідзе талану". На рускую мову гэты радок Усевалад Раждзественскі так і пераклаў: "Тут, где несчастный поэт умирал". Няшчасны, а не бяздарны...

— Вось вы, Піліп Сямёнавіч, і перакладзіце гэты верш на беларускую мову — правільна і дакладна.

— А навошта мне перакладаць, калі я і так яго ведаю і добра разумею. Усё ж ясна: "тихо, журливо кива головою, виттям плакучим верба". Усе да аднаго словы нашы — вярба, голле, журліва...

— Дык і цудоўна! Галаву не трэба ламаць...

— Добра, паспрабую, — згадзіўся Піліп Сямёнавіч.

І пераклаў, добра пераклаў, абмінуўшы таго "бесталаннага паэта". Радок загучаў выразна:

"Дзе ў адзіноце паэт паміраў..."

З Піліпам Сямёнавічам Пестракам я быў добра знаёмы і да гэтага. Мы часта сустракаліся ў рэдакцыях, у Саюзе пісьменнікаў, на сходах і розных пасяджэннях. Я ўжо добра ведаў, якая падзіцячы шчырая і па-бацькоўску спагадлівая душа хаваецца за знешне наіўнай і грубаватай прастатой гэтага сялянскага мудраца і ўмельца. Ён не заканчваў універсітэтаў, але, адседзеўшы больш за дзесяць гадоў у турмах, меў вялікі жыццёвы вопыт, фізічную і *маральную загартоўку*. Не ведаю, ці змог хто запісаць яго падобны на ле-

— Як хораша ты перакладаеш Міцкевіча!

— Не, — адказаў я яму, — не ўмею я яшчэ прачытаць правільна: блытаюся ў іхніх шыпячых — "кржыжак, пржызволяць"...

— А іх і ведаць не трэба. Можа, сам Міцкевіч іх не вымаўляў, а пісаў толькі, бо граматыка патрабавала. Ён жа быў беларус... Перакладай, каб добра гучала па-беларуску...

У Каралішчавічах Піліп Сямёнавіч нас вучыў, як правільна сушыць абутак і шкарпэткі, марынаваць селядца, варыць яйкі ўсмятку, як на базары выбіраць смачнае сала. Сапраўды, ужо смачнейшае, чым было ў Піліпа Сямёнавіча, сала наўрад ці знойдзеш. Аднойчы ён прывёз з Камароўкі ў Каралішчавічы ладны кус і не панёс яго на кухню, а засунуў пад падстрэшак ганку, а сам пайшоў адпачываць. Каты, а іх было там многа, разнюхалі тое сала і пачалі дзерціся па слупах, каб дабрацца да прынады. Мы ледзь здагадаліся, чаго яны туды дзяруцца. Адагналі, разбудзілі Піліпа Сямёнавіча.

— Во фашыстоўцы! — абурыўся той.

Давялося нам вечарам знішчыць тое сала, збегаўшы ў саўгас "Апчак" па пляшку пякучай.

Добры чалавек быў Піліп Сямёнавіч Пестрак, царства яму нябеснае! І цікавы, сумленны пісьменнік, творамі якога захапляліся і будуць яшчэ доўга захапляцца *беларускія чытачы*.

**Хведар ЖЫЧКА**

ЧЫТАННІ

## У ВЯНОК ШЫРМУ

На філалагічным факультэце БДУ сталася добрай традыцыяй штогод ладзіць навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці аднаго з найслыннейшых сыноў беларускай зямлі — фальклaрыста, музыкі і, найперш, адданага патрыёта — Рыгора Раманавіча Шырмы. Чарговыя — IV — адбыліся 18 лістапада. Урачыстым, але і жывым, нязмушаным словам канферэнцыю адкрылі дэкан факультэта праф. І. Роўда і загадчык кафедры тэорыі літаратуры, якая і была арганізатарам чытанняў, праф. В. Рагойша. Удзельнікаў і гасцей віталa намеснік дэкана дац. А. Долбік. Сярод іншых гэтую імпрэзу выгадна вылучае тое, што большасць выступоўцаў на ёй — студэнты, якія спрабавалі (і небеспаспяхова) спалучыць навуковы аналітызм, доказнасць, аргументаванасць прапанаваных тэзісаў з эмацыянальнасцю, палемічнасцю, добрай маладой задзірлівасцю. Асабліва вызначыліся сябры унікальнай суполкі — студэнцкай навукова-даследчай лабараторыі "фальклaрыстыка" (кіраўнік дац. Р. Кавалёва), якія, дарэчы, неаднаразова былі пераможцамі конкурсаў грантаў для студэнтаў і аспірантаў БДУ.

Варта ўхваліць тэматычную шырыню дакладаў і паведамленняў, арыгінальнасць, часам нечаканасць і нават парадаксальнасць пастановак праблем. Гаворка вялася на шырокай філалагічнай прасторы: ад дасціпнасці народнага і *літаратурнага анекдота* да шчымлівага гучання сіроцкай песні, ад таямніц старажытнага міфа да асаблівасцяў айчыннай тапанімікі і парэміялогіі.

На пленарным пасяджэнні выступілі загадчык навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору БДУ к.ф.н. В. Ліцьвінка, загадчыца кафедры беларускай лінгвістыкі і міфалогіі БДУ д.ф.н. Т. Шамякіна і загадчыца навукова-даследчай лабараторыі традыцыйнага мастацтва Інстытута праблем культуры А. Боганева. У працы секцый удзельнічалі вядомыя навукоўцы — выкладчыкі ВНУ і навуковыя супрацоўнікі.

Асаблівa прыязнага, удзячнага слова заслугоўваюць супрацоўнікі кафедры тэорыі літаратуры кандыдаты філалагічных навук Р. Кавалёва, В. Прыемка і Г. Марозава, дзякуючы намаганням якіх пастунасці і адбылася канферэнцыя і якія ўжо распачалі працу па падрыхтоўцы навуковых матэрыялаў да друку.

**Віктар КАРАТАЙ**

**СПАДЧЫНА**

# НЕСПАРАДКАВАНАЯ ХАТА

**Максім ЛУЖАНІН**



•

Падышоў ранічкаю да стала і адхіснуўся: у акно моцна грукнула. Шэры камячок шпарка адскочыў назад і знік за бліжэйшымі дрэвамі. Зразумела: птушка! Але якая? Для голуба замалая, вераб'ёў на нашым двары цяпер не відно — няйначай, сініца, яны зрэдку прысаджваюцца на балконе. Мусіць, ляцела, дурнічка, навослеп і не разабрала, што наперадзе не паветра, а непрабіўная, як на яе сілу, шкляная перашкода. На празрыстасці заслоны падманулася, небарака! А цяпер, памахаўшы крыху, з гарачкі, крыльцамі, касцянее дзе-небудзь у кусце, выцялася ж моцна. А колькі трэба для смерці такой дробнай птушынай душы? Нават пстрычкі зашмат.

Гэтак падумалася пра магчымы лёс птушкі, успомнілася прыкмета пра чалавечы. Кажуць, калі стукаецца птушка ў акно, значыць, кліча ў далёкую дарогу збірацца, навечна. Пара, як відаць. Не далічваюся ўжо многа каго. Пайшлі і мне браму адчынілі...

Між іншага, вязні з камеры пад № 3 мінскай "амерыканкі", круглай будыніны ва ўнутраным двары колішняга ДПУ так тлумачылі з'яўленне голуба на закратаваным акенцы. Калі глядзеў усярэдзіну, на нас, значыць, цікавіўся — як тут у вас, не цесна, — яшчэ месца знойдзецца? А як птушка сядала хвастом у камеру – чакай голасу вываднога: "Збірайся з рэчамі!"

Гэта неадночы спраўджвалася. А камера была заўсёды рада: прыйдзе нехта з волі, значыць, раскажа штосьці, можа, і пра свой дом чаго дачуешся. Калі ж паклічуць каго "на волю", можна будзе шапянуць: зайдзі туды і туды, перадай прывітанне.

Наш вартаўнік не толькі дзвярэй пільнаваў, а і на прамінку ў двор выводзіў — адсюль мянушка — вывадны, мусіць. Мы яго звалі "пастушок", імя вельмі ўдала прыляпілася. Малады бялявы хлапчук, латыш, вочы светлыя, рукі вясковыя, не прыпсутыя ані ягонай сумнай службай — хоць зараз пускай за статкам. Толькі што пры баку маўзер у драўлянай кабуры целяпаецца. Аднак ягонае "Збірайся з рэчамі" так нагадвала змалку чутае пастухоўскае "Вы-ы-ганяй!", што чакалася — зараз і пугаю лясне.

Адным чынам тлумачэнне прылёту птушкі на акно і турэмнае і вясковае ў нечым супадаюць: на ўваход — добры госць здалёку, на выхад — часовы ці на заўсёды адыход.

А ўсё ж лепей за ўсё нічога гэтага не браць пад увагу. "Хто прымяча, той і адвіча", — гаварыў мажны, даўганосы бацюшка, кароткага тэрміну жыхар той самай камеры № 3. Калі выклікалі на допыт, хутка падымаўся і хрысціўся ў дзвярах. "Пастушок" нібыта ўпершыню кожны раз глядзеў на гэту цырымонію і казаў адно і тое ж: "Ух ты, баця!" З павагай адступаўся, рабіў выгляд, быццам спалохаўся.

Бацюшка, думаецца, не вярнуўся ў свой прыход, а "пастушок" калі не паклаў галаву ў вайну, гадуе ўнукаў недзе пад Рыгай ці ходзіць там з іншымі дзядкамі на плошчы.

**1989**

•

Ці ад старасці мае нараканні і дакоры ў свой бок? Мусіць, вярну на сябе абы-што, каб пазбыцца схільнасці, неадольнай і ў мае гады, да веры. Бо, абвяргаючы многа чаго ў ёй, тым больш сцвярджаю яе канечную патрэбу. Пераконваю сябе: вера была, павінна быць і будзе. Чалавек без веры — не чалавек, робіцца нічым, часцей за ўсё — злачынцам, распуснікам, марнатраўцам, зайздроснікам, здраднікам народу і сяброў.

Ні да адной з гэтых і падобных ім катэгорый не належу. Таму магу свабодна гаварыць пра сябе самога, бо і ведаю, дарэчы, сябе куды лепш за іншых.

Я веруў усё жыццё шмат у што, шмат у каго, шмат каму, нават у што пападзе, у немаведама што. Праз пэўны час высвятлялася: вера ў што — адны ілюзіі, вера ў каго і каму — відавочны падман прагнай да свята і праўды душы.

Адным словам, веруў у пустое месца, засяляў яго падзеямі і постацямі, прыдуманымі на свой густ.

Найбольш спадзяваўся на цуд. У юнацтве — быццам вось-вось адчыняцца дзверы вясковай хаты, і прыйдзе *Тая,* мімалётнае сненне, паводле Пушкіна, і ў той самы час — жывая, трапяткая ў абдымках. І яшчэ веруў: быццам слова маё стане ўсемагутным,тысячы будуць чытаць, слухаць яго і, вядома ж, ускладаць на аўтара вянкі і сыпаць кветкі да ног.

Нічога не спраўдзілася, а вось у турму трапіў. Там, і ў лагеры таксама, веруў у хуткае вызваленне: змятуцца, маўляў, недарэчныя абвінавачванні, загрымяць ключы ад камеры, і ступлю вольны на вольную зямлю бацькаўшчыны. А што пасля лагера траплю ў Маскву, застануся жыць там — не даваў веры. Гэта быў цуд, адбыўся нечакана і ў пару. У Мінску пачалі новы заход: пахапалі многа каго з беларускіх інтэлігентаў, моладзі, нацыянальна свядомых камуністаў, аж да сакратароў райкамаў уключна. Дый сказалі мне ў Саюзе пісьменнікаў, калі я моцна занудзіўся без горада юнацтва і прыехаў: "Хочаце вярнуцца? Але з чыстымі рукамі".

Я бразнуў дзвярыма, не развітаўшыся. Чысцейшых рук, як тады, не меў ніколі.

Амаль услед адбыўся цуд ці паўцуду: мяне ў новы нерат не залавілі. А беларуская калонія ў Маскве сабралася даволі значная, асабліва калі наехала людзей з высылак, як толькі прапісвалі ўсіх. Неўзабаве агледзеліся, завінуліся прарэджваць. Загрэблі Юльку, Змітрака, хлопцаў з беларускага клуба. Старога Міхася Дуброўскага, мяне, Нічыпара Чарнушэвіча, Сядуру — цяперашняга Глыбіннага, Канстанцыю, мусіць, пакінулі на развод: галоў не вытыркаеце, дык тупайце пакуль на волі.

**1990**

•

Калі жылі на Палярнай, быў у нас Трышка, мілае, дураслівае кацяня. Вельмі ласкавае, гукнеш па імені, адразу каля ног "мур-р!" і скок на калені.

Аднойчы вяртаўся з работы, недзе за паўквартала ад дома дарогу пераходзіў дужаваты злосны кот: поўсць натапырана, з вачэй — іскры. Я прыгледзеўся: нешта знаёмае. О, ды гэта ж Трышка, наш маленькі ласкавы каток, але кожны валасок яго цёплага кажушка стаяў, гатовы ўкалоць, як шыла.

Відаць, выбраўшыся з дому, ён, каб нагнаць страху на вулічных сабак, прыняў нязвыклы, сур'ёзны выгляд, як быццам намнога пабольшаў.

Што ж, магчыма, і ў жывёльным свеце мае сілу прыказка: па адзенні страчаюць... Вучоныя сказалі б: выявіўся інстынкт самазахавання.

Праз некаторы час я ўбачыў Рыгора Раманавіча Шырму ў некалькіх кроках ад аднаго ўплывовага будынка. Убачыў і не пазнаў: мілы дзядзька Рыгор таксама нібыта прыбавіўся ў росце, крок гучаў рэзка, як страявы, дабрадушлівыя дзядзькавы вусікі былі рашуча задзёрты хвастамі ўгору. Адным чынам, па вуліцы рушылася грозная постаць угневанага асілка, ніяк не падобная да таго далікатнага, невысокага чалавека з пявучай мовай і добрай усмешкай, які гасцяваў некалькі дзён назад у нашай хаце.

Сакрэт ператварэння высветліўся пазней. Шырма ішоў на сур'ёзную размову з невялікім прыхільнікам ягонай капэлы, асабліва кірунку і манеры выканання. І, перш за ўсё, павінен быў устрашыць суразмоўніка ваяўнічасцю постаці, зрыхтаванасцю да любое сутычкі. Бо доказы свае праўды маглі і не падзейнічаць, хоць былі і надзейныя.

Сутычка была перанесена на больш высокі ўзровень і скончылася ў карысць Шырмы. З разгромным лікам.

•

Па дарозе за горад, на сажалцы блізка Ждановіч, мы кармілі лебедзяў. Некалькі гадоў запар. Знаёмства пачалося, калі была толькі адна пара. Нечаканы беласнежны падарунак сярод вялікага мноства даволі буйных качыных чародак і мітусні незлічоных чайчыных крыл.

На варце новых жыхароў вадасховішча паставілі міліцэйскі пост. Клопат — нялішні, скрозь — натоўпы маладых людзей, апанаваных жаданнем пасмажыцца на прыазёрных пляжах і глынуць таго-сяго, паплаваўшы. Аднак прыгожых птушак, да таго ж навасёлаў у Мінску, ніхто не асмельваўся зачапіць, людзі стаялі і вачэй не спускалі з неверагоднай бялоты пер'я і цудоўнага выгібу доўгіх шыяў у цудаў прыроды. Напэўна ж, большасць назіральнікаў не мела ўяўлення, што лебедзь можа пастаяць за сябе, адным ударам крыла забівае ваўка.

Пад восень белых жыхароў вадасховішча пабольшала, стала пяцёра, з'явілася патомства. Трое дзяцей, шэрыя, як гусі, і такія ж вялікія. Убрацца ў белае яны маглі толькі налета, выліняўшы.

Вясною на знаёмай вадзяной лугавіне мы ўбачылі тую самую пару, заснавальніцу роду. І самотнага лебедзя ці лябёдку, каго яны ў сваю кампанію не прымалі. Птушка плавала асобна, за агульным сталом не кармілася, не падпускаў галава сям'і.

Яшчэ праз год на азярыне людкавалася зноў пара, відаць, тая самая, калі не большага харaства.

Мы сябравалі, пад'язджалі пад бераг і націскалі на клаксон. Зачуўшы знаёмы сігнал, лебедзь узлятаў над вадой і браў курс проста на нас, як бы далёка ні быў каля процілеглага берага. За ім роўненька плыла лябёдка, а ззаду спяшаліся малыя шаракі. Часамі строй, напэўна, у мэтах бяспекі, змяняўся: маці ачаляла флацілію, подлеткі галава ў галаву трымаліся за ёю, а бацька прыкрываў сямейку. Плыў апошні, грозна паварочваючы галаву на раптоўны ўсплёск рыбіны ці ўзлёт чайкі.

Неўзабаве пачаліся падмаразкі, лугавіну зацягнула лядком. Старая пара лебедзяў апынулася на малой лапіне незамёрзлай вады, на самай сярэдзіне, даволі далёка і ад аднаго і ад другога берага.

Пачуўшы наш сігнал, птушкі захваляваліся, кінуліся плысці на сустрэчу, але не здолелі: прабіць лёд не ставала сілы. Аднак лебедзь стараўся як мог, адплываў на вольную ваду, быццам разганяўся, і так біў і біў грудзьмі, пашыраючы ледавую расколіну.

Адзінаборства птушкі з ледзяным полем прыцягвала вочы, але мы вырашылі паехаць, не хваляваць палоннікаў азярыны. Думалася, пазавіхаюцца крыху, а потым пераляцяць на асноўнае возера, пад уратоўчую станцыю, — там лёд не нарос і даюць есці.

Вярнуліся мы гадзіны праз тры, лебедзі не спынілі работы. Лябёдка змяніла мужа, відаць, пашкадавала: сама ішла паперадзе, грудзьмі калола лёд. Лебедзь — за ёю пашыраў прабіты раўчак. Адолелі ўжо метраў з пяцьдзесят, да нашых рук заставалася зусім нічога.

Нарэшце падплылі пад узбярэжны аер і ўзяліся за накрышаныя ім ласункі. Глыталі хутка і прагавіта, пазбіралі ўсё да крошкі. Падмацаваўшыся, адразу пачалі падхарошваць вопратку — за такую цяжкую дарогу забрудзілася, пазрушваліся дбайна ўкладзеныя пярынкі.

Туалет быў скончаны, развітвацца нам, дый ім, не хацелася: калі яшчэ ўбачымся, наперадзе цэлая зіма.

Лебедзь стаяў на траве ў адталай берагавой вадзіцы і добразычліва выцягваў у мой бок доўгую шыю. Лябёдка падсунулася бліжэй, тужылася дастаць драбок пячэння з выстаўленай рукі і, паводле звычкі лебядзяў у гэтай пароды, шыпела. Нарэшце схапіла адзін, а за ім другі драбок. Мусіць, не спагнала яшчэ голаду ці горш змарылася. Лебедзь стаяў поруч, браць ежу з рук не намагаўся, а можа, як далікатны мужчына, пераступаў лепшае даме.

Васіль, наш тагачасны спадарожнік, гарачы прыхільнік сяброўства з птушкамі, перахваляваўся не менш за іх праз той лёдавы палон. На ад'ездзе сказаў:

— От бы і нам так сябраваць... І есці, не адпіхаючы адзін аднаго, і разам гора перабываць.

Васіль зараз далёка, а з птушкамі сябруем як і раней.

**1988**

•

— Давайце параімся! — сказаў Фадзееў і спытаў, як зваць мяне па бацьку. Гэта — вельмі па-сялянску. Калі пачыналася сур'ёзная рада, мужчыны гаварылі адзін аднаму "вы" і абавязкова называлі імя па бацьку.

Пачуўшы мой адказ, ён весела зарагатаў:

— Фу ты, чорт! Чысты Сашкаў дом.

У пакоі былі тры Аляксандры: ён сам, Аляксандр Андрэевіч Пракоф'еў, Аляксандр Рыгоравіч Дзяменцеў. Я аказаўся чацвёрты.

•

Гогаль піша Жукоўскаму: "Расія, Пецярбург, падлюкі, дэпартамент, кафедра, тэатр — усё гэта мне снілася. Я прачнуўся зноў на радзіме".

Божа, як яны, вялікія, любілі радзіму! Так моцна, як і ненавідзелі ўсё і ўсіх, што чынілі ёй шкоду.

•

Пастух, стары ўжо чалавек, падагнаў статак на бераг возера, балазе трава добрая і каровы нікуды не валакуцца. Прысеў у цяньку. Поруч збіраюцца купацца хлопцы. Чорненькі, шчуплы юнак скінуў майку і распускае "маланку" ў портках.

Стары падняў вочы на модную засцежку, паківаў галавою:

— А што, цяпер гэта скрозь на ланцугу трымаюць? Ну і свет пайшоў! І я малады быў гарачы, але каб на прывязь браць...

І заліўся добрым старэчым смехам.

•

Газета інфармуе: пісьменнікі абавязаліся дапамагаць Народнаму кантролю, утварылі для гэтага групу.

Нашым кантралёрам найлепей пачаць так: праверыць кнігі апошняга выпуску, выявіць брак і бракаробаў. І не хадайнічаць аб уключэнні рукапісаў у план, а ўгаварыць некаторых аўтараў не выдавацца, а яшчэ лепш — зусім не пісаць.

Справаздача такой групы выглядала б наступным чынам: за справаздачны перыяд пад нашым уплывам устрымаліся ад выдання кніг 5 (пяць) аўтараў, 10 (дзесяць) узялі работы для карэннай перапрацоўкі, 3 (трое) зарракліся пісаць. У выніку выдавецтва атрымала эканомію на паперы, ганарары і друку, а галоўнае — засталіся незасмечанымі мазгі чытачоў у колькасці, адпаведнай тыражу нявыпушчаных кніг, што вызваліла іх энергію на грамадска карысную працу.

**Публікацыя Тамары МАЛЮКЕВІЧ**

# ТАМ, ДЗЕ ВЕЖЫ САФІІ

Хочацца павіншаваць чытачоў ЛіМа і ўсіх тых, хто цікавіцца сваёй культурай, гісторыяй з выхадам новай кнігі "Там, дзе вежы Сафіі: Полаччына літаратурная: Проза, паэзія". Зараз даволі многа кніг выходзіць з друку, прысвечаных роднай Бацькаўшчыне, на роднай мове, што вельмі прыемна. Але гэты зборнік магчыма стане першым з серыі кніг, прысвечаных літаратурнаму жыццю рэгіёнаў Беларусі. Хто ведае, можа мы ўбачым літаратурную Магілёўшчыну, Гомельшчыну ці Брэстчыну. Але гэта пакуль чакае нас наперадзе.

Укладальнік зборніка Навум Гальпяровіч пад адной вокладкай сабраў творы



асоб, якія жылі, працавалі на Полаччыне ад часоў Ефрасінні Полацкай, Францішка Скарыны, Сімяона Полацкага да нашай рэчаіснасці, да тых, хто толькі пачынае пісаць, робіць першую спробу пяра. У нашых сучаснікаў была магчымасць выступіць непасрэдна на прэзентацыі кнігі, прачытаць свае вершы, выказаць уласныя думкі. Вядучым на вечарыне быў сам укладальнік зборніка Навум Гальпяровіч. Выступалі Генадзь Бураўкін, Пятро Васючэнка, Сяргей Панізнік, Іван Стадольнік, Ірына Дарафейчук. Вядомыя пісьменнікі і зусім яшчэ маладыя літаратары, усе гаварылі пра родную Полаччыну, старажытны Полацк, пра крыніцу свайго натхнення, гучалі вершы, радкі з прозы. З выхадам новай кнігі калег па пяру павіншаваў Алесь Пісьмянкоў.

Да прэзентацыі кнігі было прымеркавана адкрыццё мастацкай выставы "Рэха капішча". Сяржук Цімохаў не адзін год пражыў у Полацку і некаторы час быў галоўным мастаком горада. Яго цікавіць гісторыя, нашы вытокі, старажытная вера продкаў – паганства. І ў сваіх мастацкіх вобразах Сяржук Цімохаў звяртаецца да тых часоў: "Стоды", "Цень Вялеса", "Вершнікі на конях", "На Вялікдзень сонца йграе", "Рытуальнае шэсце", "Цені купальскае ночы".

З даўніны да сучаснасці Полацкай зямлі – перад гасцямі былі перагорнуты старонкі гісторыі ў мастацкіх і літаратурных творах. І зноў адбылося спалучэнне літаратуры і мастацтва ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, які гасцінна прыняў удзельнікаў прэзентацыі. Для многіх выступоўцаў, гасцей музей ужо даўно стаў літаратурным домам. Пад сваім дахам ён збірае аматараў беларускай культуры і заўсёды чакае да сябе ў госці ўсіх жадаючых.

**Вольга ГУЛЕВА**



У гонар 140-годдзя паўстання К. Каліноўскага на франтоне даха музея выяўленчага мастацтва, што ў Старых Дарогах, на днях устаноўлены барэльеф (разьба народнага майстра Міколы Небышынца) з выявай Кастуся Каліноўскага.

Фота аўтара праекта А. БЕЛАГА



***Алесь (Аляксандр Мікалаевіч) Белакоз — беларускі педагог, краязнавец, музеязнавец, заслужаны работнік культуры Беларусі. Нарадзіўся 11 верасня 1928 года ў вёсцы Лятkі Мастоўскага раёна ў сялянскай сям'і. У 1944 годзе ў вёсцы Гудзевічы скончыў сямігодку. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Ваўкавыскай школе (1947). Настаўнічаў у пачатковых класах у Гудзевічах. У 1950—52 гг. служыў у войску. У 1953—55 — настаўнік пачатковай школы ў вёсцы Струга Мастоўскага раёна. Выкладаў беларускую і нямецкую мовы ў Радзевіцкай школе (1955—59). У 1958 г. скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры літфака Гродзенскага педінстытута. У 1959—90 гг. — настаўнік беларускай мовы і літаратуры СШ у в. Гудзевічы. Вёў шырокую нацыянальна-патрыятычную работу з вучнямі (перапіска іх з пісьменнікамі, мастакамі, вучонымі, арганізацыя збору краязнаўчых матэрыялаў, выданне вучнёўскага часопіса-штогодніка "Праменьчык"). З 1965 г. экспануе ў школе літаратурна-краязнаўчыя матэрыялы. У 1968 г. адкрывае для наведвальнікаў школьны музей у Гудзевічах, якому нададзены статус дзяржаўнага (1990 г.) З 1990 г. працуе дырэктарам Гудзевіцкага літаратурна-этнаграфічнага музея. Удзельнік нацыянальных і міжнародных навуковых канферэнцый і семінараў па пытаннях краязнаўства і патрыятычнага выхавання школьнікаў.***

## Алесь БЕЛАКОЗ:

# "Я ІШОЎ НА КАМПРАМІСЫ, АЛЕ ГЭТЫЯ КАМПРАМІСЫ ВЫЙГРАВАЎ..."

### ПАЧАТАК

Аднойчы, калі я цяжка захварэў і ляжаў у шпіталі ў Мастах, на працягу двух месяцаў без ніякай патрэбы мне ў вялікіх колькасцях давалі антыбіётыкі. І парушылі мікрафлору кішэчніка. Справа ў тым, што галоўны ўрач таго шпіталя даводзіўся мужыком сакратара райкама партыі па ідэалогіі. А мы з гэтай жанчынай былі вялікімі ворагамі. Я мог памерці, бо дысбактэрыёз амаль не вылечваецца. Адчуваў сябе тады вельмі дрэнна. Даводзілася пабываць у некалькіх санаторыях: два разы ездзіў у Есентукі, быў у Трускаўцы на Украіне, у літоўскім Друскінінкаі. Не хацелася паміраць. Лёг другі раз у абласны шпіталь, там нічога ў мяне не знайшлі і выпісалі.

Калі даведаўся аб гэтай гісторыі Уладзімір Іванавіч Вашко, тагачасны старшыня нашага райвыканкама, ён прыехаў да мяне і кажа: "Алесь Мікалаевіч, я чуў, што ў вас дрэнна са здароўем — я магу ўладкаваць вас у чыгуначную бальніцу. Гэта вельмі добрая бальніца. У мяне там знаёмыя ёсць. Вас будуць добра лячыць без усялякіх хабараў". А я адказваю: "Вялікі вам дзякуй, але мне бальніцы не дапамагаюць". — "Добра, а што б вы яшчэ хацелі?" — "Я хачу, каб у Гудзевічах музей адкрылі. Хачу, каб мастак быў, каб дапамог нешта зрабіць". Ён і гаворыць: "Мастака знойдзем. Давайце пачнём рамонт пакоя, у якім адкрыецца музей". — "Не трэба, Уладзімір Іванавіч, — кажу яму. — Калі вы зробіце рамонт, то мяне зжывуць са свету. Не трэба". — "Ну, а што трэба тады?" — пытае Вашко. — "Ёсць у Сямірэнках хатка, якой больш за 200 гадоў, пры Кацярыне Другой будавалася. Дык лепш вы нам дапамажыце яе сюды перавезці. У ёй і зробім музей. А потым, калі для школы пабудуюць новы будынак, няхай аддадуць нам увесь стары". Так і вырашылі. Новую школу пабудавалі ў 1981 годзе, а нам пад музей аддалі спачатку адзін школьны будынак, а потым і другі. Пасля я прасіў, каб прыбудавалі яшчэ 200 квадратных метраў. Зараз нам зноў не шкодзіла б расшырыць экспазіцыю...

### ЛІСТ У ЦК

Аднойчы завуч нашай школы, жанчына родам з Саратаўскай вобласці, выкладчыца рускай мовы і літаратуры, на прафсаюзным сходзе паставіла пытанне аб тым, каб у беларускую Гудзевіцкую школу набыць падручнікі па гісторыі на рускай мове. Выкладчык тады быў рускі і вёў урокі па-руску, а вучні адказвалі па-беларуску, і на ўроках атрымлівалася двухмоўе. "Если мы купим учебники на русском языке, — даводзіла завуч, — то никуда они не денутся, будут отвечать по-русски". А я ёй кажу: "Прабачце, а калі б настаўнік гісторыі быў туркам, то няўжо мы са Стамбула выпісвалі б падручнікі на турэцкай мове?" — "Так что же вы сравниваете, ведь и турку тяжело говорить по-белорусски". Спрабую растлумачыць: "Не можа Аляксандр Кузьміч гаварыць па-беларуску па дзвюх прычынах. Першая прычына такая: ён проста не хоча гаварыць. Другая — ён не можа навучыцца беларускай мове з-за сваёй абмежаванасці. Бо скончыў дзесяцігодку ў Беларусі, тут жа набыў вышэйшую адукацыю, працуе ўжо 17 гадоў і ніяк не здолее засвоіць беларускую мову. Можа, яму і нагоул няма як настаўнікам працаваць?.." Тады гэты наш гісторык Шабаль (усе ведалі, што ён "стучит", дакладвае, куды трэба) прапануе: "Давайте мы напишем в Министерство просвещения и спросим разрешения на покупку русских учебников". А я ведаў, што яны дазволяць, бо быў на курсах і бачыў, што яны хочуць, каб знікла беларуская мова. І Шабаль знаходзіўся на гэтых курсах і таксама ведаў, як там на гэта глядзяць. Тады я гавару так: "Чаго нам пісаць у міністэрства, давайце мы адразу ў ЦК напішам". Мне хацелася мець паперку з ЦК аб тым, што яны не дазваляюць, бо гэта ж гісторыя. Я быў старшынёй прафкама і вёў прафсаюзны сход: "Прапануйце, — кажу, — кандыдатуры, хто ліст пісаць пачне". Прайшла кандыдатура гісторыка. Але гэтая гісторыя цягнулася б яшчэ доўга, каб я сам нарэшце на напісаў той ліст і паслаў у ЦК. У адказ прыехаў у Гудзевічы загадчык аддзела прапаганды Міністэрства асветы БССР Ярмоленка. А мяне якраз на два тыдні адправілі ў камандзіроўку ў Гродна. Спецыяльна, каб мяне тут не было. Выклікалі дырэктара, завуча, гісторыка і ўсіх астатніх. Ярмоленка выступіў перад калектывам: "Калі ў вас такое было, — пачулі настаўнікі, — дык гэта скандал, то вы скажыце, што рускія падручнікі купляць ніхто не прапаноўваў". І яны згадзіліся, што нічога не было... "Это все выдумка... предложения такого не было. Белокозу никто ничего не поручал. Он все это придумал сам, из пальца высосал... По этой причине и разбирать нечего. Ну конечно, накажем Белокоза!.."

А мая жонка прысутнічала на гэтым сходзе і сказала так: "Прабачце, калі ласка, калі вы так ужо хочаце справу давесці да канца, то прыязджайце, калі Белакоз будзе тут. Чаму вы прыехалі, калі яго няма? Бо ўсё, што вы тут гаворыце, — няпраўда". І давай усіх падымаць: "Юлія Іванаўна, вы ж прапаноўвалі напісаць?" — "Нет, не предлагала". — "Аляксандр Кузьміч, вы прапаноўвалі, каб Белакоз напісаў?" — "Нет, не предлагал". Нарэшце і дырэктар прамовіў: "Можа, узнікала штосьці такое, але я не памятаю". Усе ад сваіх слоў адмовіліся...

### БЮСТ МІХАСЯ ЯВАРА

Настаўніцкія заробкі ў той час, аб якім ідзе гаворка, былі малыя: 64 рублі ў месяц у мяне і 57 рублёў у жонкі. На сённяшнія грошы гэта каля 190 тысяч. А ў нас трое дзяцей і хворая маці. Пенсій тады не плацілі. Каб пражыць, трэба трымаць карову, парасят, курэй... Так мы і жылі. Добра, што хоць жонка не вельмі сварылася. Вядома, у хаце нястача, а я заплаціў мастаку за бюст паэта Міхася Явара 70 рублёў. Акрамя гэтага, калі прывезлі, трэба было заплаціць хлопцам і шаферу па пяцёрцы. Адным словам, бюст абышоўся мне больш як у 80 рублёў.

Тым часам, склікаюць савет РАНА. "Белакоз, — кажуць, — за свае асабістыя грошы вы набылі бюст нейкага Міхася Явара і ўстанавілі ў школьным памяшканні. Вось растлумачце савету, як вы маглі такое зрабіць?" Адказваю: "Ведаеце, калі б я гэтыя грошы ўкраў, то тады растлумачыў бы вам свой учынак. А так я нічога тлумачыць не буду". Праўда, я не сеў адразу. Кажу яшчэ: "Людзі! Члены савета РАНА! Вы сёння хочаце судзіць мяне. Але ўспомніце, калі ласка, польскага пісьменніка Бруна Ясенскага, члена камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Ён да сваёй кнігі "Чалавек мяняе скуру" ўзяў такі эпіграф: "Не бойся свайго ворага (і паказваю на загадчыка РАНА) — ён хоча тваёй гібелі. Я ведаю гэта, і мне не страшна. Не бойся сваіх сяброў (паказваю на настаўнікаў) — яны рана ці позна здрадзяць табе". Паказваю на савет РАНА і кажу: "Бойся людзей абыякавых, гэта з іх маўклівага дазволу цябе могуць узнагародзіць, а могуць распяць на крыжы, бо ім усё роўна, яны прагаласуюць. Вы сёння падымеце руку — думайце, за што збіраецеся яе падымаць". Звычайна ўсе пытанні вырашаліся ў прысутнасці грамады, а тут кіраўніцтва схавалася — пайшлі ў кабінет дырэктара. І вось там устаў дырэктар трэцяй Мастоўскай школы і кажа: "Товарищи, я не понимаю, за что мы сегодня судим Белокоза? Человек на собственные деньги приобрел для школы бюст писателя, и мы его за это судим. Да если бы у меня был такой учитель, я бы дошел до министра образования и выбил бы ему звание заслуженного учителя Беларуси". Устае другі інспектар: "Я сорок лет работаю директором школы и никогда не слышал, чтоб учитель отдал свою зарплату на школьное дело, но я в корне не согласен с товарищем. Белокозу надо давать не заслуженного учителя БССР, а заслуженного учителя всего мира." А ў іх партфелі ляжала вымова... Адным словам, мне ўказалі на самавольныя дзеянні: "Что это у нас за анархия? Что хочу, то и творю?" І загадалі бюст прыбраць.

"Добра, — адказваю, — заўтра на вялікім перапынку я збяру вучняў і скажу: "Дзеткі, загадчык РАНА і загадчык аддзела прапаганды райкама партыі Лебедзеў загадалі бюст паэта-падпольшчыка (на самай справе ён не быў падпольшчыкам) Міхася Явара разбіць. І тут жа пры ўсіх разаб'ю". — "Так делать не надо. Вы лучше заберите бюст домой". — Не магу, таму што мы запісалі яго ў фонд школы. І калі экспанат выбывае, то трэба пісаць, дзе ён падзеўся. Прыйдзецца запісаць, што яго ўкраў Белакоз, а я не хачу гэтага рабіць". І ніяк яны са мной не згаджаліся. Некалькі разоў наведваўся Ярмоленка. Сам я ездзіў да Танка. І нарэшце ўсё-такі дамогся свайго — атрымаў дазвол на тое, каб бюст Явара стаяў на сваім месцы.

### ПЯЦЬ УРОКАЎ СКАРЫНЫ

Ганьбілі мяне за тое, што на тэму "Францыск Скарына" адвёў 5 урокаў, а трэба было 15 хвілін. Першы ўрок меў тэму: "Францыск Скарына — патрыёт, гуманіст, асветнік". Другі ўрок значыўся як "Падрыхтоўка да сачынення "Ф. Скарына — патрыёт, першадрукар, асветнік". Трэці ўрок — напісанне сачынення і чацвёрты — яго разбор. Гэтыя гадзіны браліся з так званых урокаў развіцця мовы (у раскладзе не вызначаюцца, не прадбачаюцца тэмы гэтых урокаў). А пяты ўрок я купіў у гісторыка. Аднойчы пытаюся ў яго: "Аляксандр Кузьміч, вы не пазычыце мне адзін урок?" Той спачатку збянтэжыўся: "Как так? Ведь так нельзя". А потым: "А вы, Александр Николаевич, не одолжите мне пять рублей?" — "Добра". — "Значит, договорились..."

За тыя пяць урокаў аб'явілі мне ў РАНА суровую вымову. А было гэта ўзімку. Выйшаў я з горада — аўтобуса няма. Навокал жа холад і снег. Пайшоў дамоў пехатою. А мая мама тады памірала ад раку... Што ёй казаць? Прыйшоў дахаты, і яна пытаецца: "Што там? Чаго цябе выклікалі?" "Хочуць пасадзіць на прысваенне звання заслужанага настаўніка Беларусі", — адказаў тады я...

### ХАТКА ЗА 20 ТЫСЯЧ

У 1982 годзе я пайшоў да старшыні калгаса, каб той дапамог правесці рамонт у музейным пакойчыку, дзе грыб падло-

гу з'еў. Ён кажа: "На гэту хатку ўжо вытраціліся, цяпер зноў..." —"Вытраціліся? — Пытаюся. — А колькі ж вы патрацілі?" — "Ну, дзесьці каля тысячы рублёў". — "Ведаеце, учора быў у мяне дырэктар Мінскага музея народнага побыту і архітэктуры пад адкрытым небам і даваў за гэтую хатку дваццаць тысяч рублёў. (Гэта тры легкавыя машыны на той час.) Дык давайце, як хочаце, прадамо хатку, а з Сямірэнак прывязём другую, там яшчэ дзве такія ёсць". — Ну, што вы, не", — кажа старшыня. "Ага, значыць, гэтая хатка каштуе больш за дваццаць тысяч? Ці ёсць у вас у калгасе такая галіна вытворчасці, у якую ў гэтым годзе ўклалі б тысячу, а ў наступным атрымалі ўжо дваццаць?" — Не, няма". — Ёсць, — кажу яму, — ёсць. Гэта Гудзевіцкі музей".

### ДЗЕ ЖЫЛІ ДЗЯДЫ

Як рабілі хатку, прыйшла да нас адна настаўніца (яна родам з Віцебшчыны) і кажа: "Зачем вы строите этот кулацкий домик?" Адказваю: "Гэта не кулацкі домік, а вельмі цікавая пабудова васемнаццатага стагоддзя, якая захавалася таму, што вёска Сямірэнкі стаяла далёка ад гасцінца і ніколі не гарэла". — "Все равно, зачем такой домик? Вы бы построили шалаш и сказали, что наши предки жили в шалашах". А я кажу: "Зрабіць можна, але што з гэтага атрымаецца? Прыедзе да нас экскурсія з-за мяжы, і мы пакажам ім, што нашы дзяды жылі ў будах, як сабакі... Вакол лес, пушчы, а яны ў будах жывуць. Чаму? Бо гультаі і дурні, падумаюць людзі. Разумны і працавіты чалавек, маючы вакол столькі лесу, ніколі не захоча жыць у будзе, ды яшчэ і зімой. Так мы дакажам толькі, што нашыя дзяды і прадзеды былі дурныя і што мы таксама дурныя. Калі б гэта было сапраўды так — што тут зробіш?.. Але нашыя продкі ніколі не лічыліся дурнымі, а былі працавітыя і разумныя".

Вы ведаеце, я яе пераканаў. Потым гэта настаўніца за ўласныя грошы, за 90 рублёў (!), купіла дыван і падарыла нашаму музею.

### КАСМАНАЎТЫ ДАПАМАГЛІ

У 1975 годзе мне загадалі, каб я зняў стэнд, прысвечаны Ларысе Геніюш. Калі я адмовіўся гэта зрабіць, мне сказалі, што зачыняць музей.

Тады я свядома ішоў на кампрамісы, але гэтыя кампрамісы выйграваў. Паабяцаў, што здыму стэнд, толькі гэта адбудзецца не хутка. "Чаму ж не хутка? Вось заўтра і здыміце", — упіраліся начальнікі. — "Здыму — застанецца голае месца. Людзі пачнуць пытаць, чаму, а я адкажу, што вы мне загадалі зняць стэнд Ларысы Геніюш". — "Вы так не кажыце, а кажыце тое і тое..." А я гавару: "Запозна мяне вучыць ашукваць людзей". Яны ж не адстаюць: "Вы павесьце стэнд з іншымі матэрыяламі". — "Усё не так проста. Трэба пісаць у Мінск, збіраць матэрыялы". (Праўду кажучы, у нас матэрыялаў на 20 такіх пакояў меласа, але ж я не прызнаваўся ў гэтым.)

Якраз у той час паляцеў у космас Пётр Клімук. Наша вучаніца Верачка Іваноўская (дарэчы, ёсць у Гродне мастак Дзмітрый Іваноўскі, дык гэта яго родная сястра, ён таксама ў нашай школе вучыўся) выткала гальштук Пятру Клімуку, а на адвароце вышыла словы — "Пятру Клімуку" і дату яго першага палёту. Адправілі ў Зорны гарадок. Пётр Клімук знаходзіўся ў космасе чацвёра сутак. І калі жонка сустрэла яго з гэтым гальштукам, ён вельмі расчуліўся. Касманаўт даслаў нам ліст з фотаздымкам. Тады я яшчэ "зрабіў ход канём": каб ніхто не ведаў, паслаў Пятру Клімуку кніжку Ларысы Геніюш "Невадам з Нёмана", каб той падпісаў яе нашым вучням. І сапраўды, мы атрымалі кніжку з такім надпісам: "Гудзевіцкай СШ ад Пятра Клімука з найлепшымі пажаданнямі. 6.8.1975г. Атрымалася, што Пётр Клімук прыслаў нам кніжку Ларысы Геніюш... Мы далі аб гэтым матэрыялы ва ўсе газеты, часопісы і радыё. Павесілі стэнд пра Пятра Клімука разам са стэндам Ларысы Геніюш.

А хутка паляцеў у космас і Уладзімір Кавалёнак. Ларыса Геніюш напісала тады верш "Уладзіміру Кавалёнку" і прыслала да нас два экземпляры: адзін у наш музей, а другі для яго ("Вы ведаеце, як пасылаць, пашліце"). Касманаўт расчуліўся: "Ребята, я сам к вам приеду. Привезу все, что найду в Звездном городке". Гэта радкі з яго ліста. Ён даслаў нам ліст і фатаграфію з подпісам: "Музею Гудевичской СШ с борта станции "Салют—407" с уважением и дружбой. Владимир Коваленок". З тае пары ніхто і ніколі больш не казаў, каб стэнды знялі.

Запісала Святлана ПРАКОФ'ЕВА

ДАНІНА ПАВАГІ

# "ОТПУСТИЛ СВОЮ ДУШУ НА ВОЛЮ..."

На днях прыехалі з Масквы беларускія літаратары, прывезлі прэзент — нашу нацыянальную паэзію на рускай мове: важкі і гожы зялёны каленкоравы фаліянт "Из века в век", і, агаломшылі сумнай навінай: ноччу 17 лістапада адышоў у лепшы свет выдатны рускі Паэт Юрый Кузняцоў...

Зрэшты, наколькі я ведаю, яму і гэты свет — Айчына агулам і бацькаўшчына-Кубань у прыватнасці — былі не горшым месцам для яго неўтаймоўнай душы і чуйнага сэрца. Шмат хто з нашых літаратараў ведаў Юрыя Палікарпавіча не толькі як паэта — здалёку, але і як простага чалавека — зблізку. Доўгія гады вёў ён паэтычныя семінары на Вышэйшых літаратурных курсах пры Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Маўклівы глыбінны чалавек, які прамаўляў рэдка і цяжка, быццам адвальваючы ў забоі напластаваны марудным часам рудны грунт... Спрадвечнае Слова заўжды было для яго нечаканай выпадковасцю, патаемна-грахоўным, але адназначна творчым актам, бы той эдэмскі яблык з дрэва пазнання, а сама Паэзія жыла не на языку, а на вусцішным вастрыі яго вуснаў.

Добра запомнілася мне ягонае філасофскае тлумачэнне паэзіі і чалавечага жыцця ўвогуле, што засноўвалася на палярнасці і супрацьлегласці асноўных чыннікаў быцця. Гэта: дабро — зло, неба — зямля, святло — цемра, нараджэнне і смерць... Альбо — Усход і Захад... Не ўсё, на жаль, ураўнаважвалася на шалях бурнага і стыхійнага часу XX стагоддзя. У рэшце рэшт і сам ён, бывала, хістаўся, не заўжды знаходзячы апору на адным з гэтых бакоў...

Беларусаў любіў не па-панібрацку, а па-людску, ставіўся да іх з мастакоўскай годнасцю і павагай. Вартых перакладаў. І гэта пацвердзяць Галіна Булыка, Зінаіда Дудзюк, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Ала Канапелька, Валеры Грышкавец, Анатоль Сыс, Алесь Пісьмянкоў і Раіса Баравікова...

Як для паэта, адышоў ён, кажучы яго словамі, "ни рано ни поздно"... Таленты не заўважваюцца, а што Юрый Кузняцоў быў найбольш выбітным з іх, гавораць адныя назвы яго паэтычных кніг: "Край света за первым углом", "Выходя на дорогу, душа оглянулась", "Отпущу свою душу на волю", "После вечного боя", "Встретимся в тюрьме"...

Руская паэзія зазнала адчувальную страту: яна аддала на закланне лепшага паэта, дзеля захавання ўласнай самасці і ўзвышэння сваёй духоўнай велічы.

А магчыма, што й гэта — усяго толькі метафарычны, "нас услаждающий обман", той наіўны спадзеў, на які абапіраецца крохкае жыццё зямнога чалавека і несмяротная летуценнасць Апалона:

*Светит луна среди ясного дня.*
*Умер другой, а хоронят меня.*
*— Что за безумство!*
*Что за безумство!*
*Совесть забыли и сердца в вас нет!*
*И утешительный слышу ответ:*
*— Там разберутся! Там разберутся!*

Будзем спадзявацца... А *тут* — пухам зямля табе, Паэт.

Л. ГАЛУБОВІЧ



Юрый КУЗНЯЦОЎ

### ПАМЯЦЬ

*— Аддайце Гамлета славянам! —*
*Крычаў прахожы чалавек.*
*Ляцела рэха за туманам,*
*Каб перайсці ў дажджы і снег.*

*Ды я міжволі здрыгануўся,*
*Пачуўшы крык у цішыні,*
*Як быццам Гамлет варухнуўся*
*Ў душы, пазбаўленай радні.*

*І плач глухі, як пры расстанні,*
*Крывёй сачыўся з-пад зямлі:*
*— Нашто старыя вам паданні,*
*Калі вы бездань перайшлі?!*

Пераклад
Алеся ПІСЬМЯНКОВА

ІМПРЭЗЫ

# ЛЕКЦЫЯ-СУСТРЭЧА

***Філфакаўцы — людзі цікаўныя, з багатай фантазіяй. Заняткаў, лекцый, практычных — ім мала. За апошнія два месяцы яны сустрэліся з былымі выпускнікамі факультэта, а цяпер народнымі паэтамі Беларусі Нілам Гілевічам і Рыгорам Барадуліным.***

А нядаўна на запрашэнне загадчыка кафедры тэорыі літаратуры прафесара Вячаслава Пятровіча Рагойшы на філфак завітаў Змітрок Марозаў — беларускі паэт, аўтар першага вянка вянкоў санетаў не толькі ў беларускай, але і ў еўрапейскай паэзіі наогул. І на першым курсе аддзялення "Беларуская філалогія", дзе вывучаецца курс уводзін у літаратуразнаўства, пачалася не проста сустрэча, а лекцыя-сустрэча. У чым яе асаблівасць? А ў тым, што яна паяднала думку з пачуццём, прыгожае з карысным, універсітэцкую лекцыю з пісьменніцкім выступленнем.

А пачалося усё з уступнага слова В. Рагойшы, чытання рэфератаў, падрыхтаваных самімі студэнтамі. Так, Марыя Курган расказала пра жыццёвы і творчы шлях З. Марозава, Надзея Бышка і Марыя Грыневіч паведамілі пра сутнасць санетнай формы і санетапісную творчасць паэта, а Валянціна Služэнка — пра вянок вянкоў санетаў З. Марозава "Апакаліпсіс душы".

Потым сам паэт выступіў перад студэнтамі. Расказаў пра сваё жыццё, творчы набыткі, адказаў на пытанні студэнтаў, прачытаў некалькі новых вершаў, у тым ліку — санетаў. Як адзначаў Змітрок Марозаў: "Мэта майго выступлення — пагаварыць пра санет і пра паэзію ўвогуле".

Хочацца, каб такіх сустрэч было як мага больш, бо кожная з іх прыносіць новыя ўражанні, абуджае цікавасць да характа паэтычнага слова, пашырае веды па тэорыі літаратурнай творчасці.

Марына БУРА

ВЫСТАВЫ

***Летаргічны сон бескультур'я не завалодае свядомасцю беларусаў дзякуючы аксамітнаму голасу звона, адлітага з "эксклюзіўных металаў" — творчай спадчыны таленавітых суайчыннікаў.***

# САМА ПРЫРОДА ПРАМАЎЛЯЕ...

У гэтым яшчэ раз пераканаў Нацыянальны мастацкі музей РБ, наладзіўшы выстаўку да 90-годдзя з дня нараджэння народнага мастака Беларусі Віталя Цвіркі (гэтая знамянальная дата была грунтоўна адзначана на старонках "ЛіМа" 14.02. г.г. — **Рэд.**) Экспазіцыю ўрачыста адкрылі 14 лістапада.

"Геніяльны майстар пачуццяў, майстар бясконцай песні аб Радзіме. Постаць яго — наперадзе нашага мастацтва", — так гаварыў на вернісажы У. Басалыга, старшыня Саюза мастакоў. Ва унісон гэтым словам "гучала" і сама выстаўка — 55 карцін В. Цвіркі, з якіх чатыры былі прадстаўлены аматарам жывапісу ўпершыню. Большасць работ — з фонду музея: у ім захоўваецца каля 130 палотнаў мастака, але, на жаль, невялікія памеры залы не дазволілі прадэманстраваць усю калекцыю.

Яскравая асаблівасць гэтага таленту ў тым, што нават пасля піку творчага ўздыму ён застаўся актыўным у плыні мастацтва, "не сыходзіў з дыстанцыі" ўвесь свой доўгі век. І пра гэта сведчаць яго апошнія працы. Ды наогул паўнавартасная шматбаковасць таленту В. Цвіркі выклікае захапленне...

Яго творчасць, на думку спецыялістаў, нельга ўціснуць у рамкі пэўных традыцый: ён — і моцны рэаліст, які ўсё ж такі імкнуўся па-мастацку трансфармаваць рэчаіснасць, і майстар экспрэсіўнага пейзажу, што межаваў у яго з рысамі імпрэсіянізму пачатку XX стагоддзя.

Мастак-каларыст. Менавіта такім ён увайшоў у гісторыю беларускага жывапісу. А яго ўлюбёная вясна падчас абуджэння і пазбаўлення ад гіпнатычных уплываў зімы, увасобленая ў спалучэнні адценняў чорна-карычневых колераў, напаўняе эпічныя малюнкі рэчаіснасці мікракосмасам лірыкі. І настолькі мастак быў надзелены здольнасцю чуць прыроду, што быццам бы яна сама праз яго прамаўляла. Мастак лічыў, што "ў кожнай карціне павінны адчувацца святло, паветра, рух, даючы тым самым твору бессмяротнасць". А яшчэ яго творчасць — гэта імкненне да наватарства, новых тэндэнцый, спасціжэнне шляхоў развіцця, пошук новых формаў, адценняў...

Выстаўка будзе працаваць да сярэдзіны снежня. Тым часам выйдзе ў свет каталог, які будзе змяшчаць амаль усе творы Віталя Цвіркі.

Кацярына ДЗЕНІСЕНКА

**Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама ГРЭКАВУ Анатолю Васільевічу з нагоды вялікага гора — смерці яго БАЦЬКІ.**

